5 сакавіка 2021 | № 9 (717)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**За журналіста адкажаце!**
стар. 9




# Мы не маем права спыняцца

Аксана КОЛБ

**Чарговы прысуд за праўду. Каця Барысевіч — паўгода, яна будзе за кратамі яшчэ некалькі месяцаў. Арцём Сарокін — 2 гады з адтэрміноўкай на год. У калідоры суда людзі радаваліся вызваленню Арцёма.**

«Я пачула апладысменты, мне гэта не зразумела, — сказала пасля суда галоўны рэдактар TUT.BY Марына Золатава. — Адзіны справядлівы прысуд быў бы — толькі поўнае апраўданне. Бо ні Каця, ні Арцём не здзяйснялі ніякіх злачынстваў».

Казаць праўду — і ёсць сёння галоўнае злачынства. Людзі, якія асмеліліся казаць праўду, — за кратамі. Тыя, хто адважыўся спытаць пра праўду — за кратамі. Хто прыйшоў па праўду ў жніўні — за кратамі. Хто патрабаваў праўды і за яе выходзіў — сёння за кратамі. Хто яшчэ хоча праўды? — За краты! Гэтай уладзе не трэба праўда. У пашане хлусня, лісліваць, рабская пакорлівасць. Праўда цяпер не патрэбная. Годнасць не патрэбная. Гонар — наогул лішняя рэч...

Больш за 100 крымінальных прысудаў толькі за люты. Год, два, тры, пяць, шэсць, дзесяць... Агулам 168 з паловай гадоў пазбаўлення волі за адзін месяц. Дзесяць гадоў атрымаў Аляксандр Кардзякоў, сябра Генадзя Шутава, які стаў сведкам забойства. Больш за тое, сам Генадзь прызнаны вінаватым. Шкада, што кідаць за краты нябожчыкаў яшчэ не навучыліся... Шпурнуў кветку ў «праваахоўніка» — за краты, пагрукаў па міліцэйскай машыне — за краты, спрабаваў абараніць маці — за краты... Не краіна, а суцэльная зона. А хто ж тады на чале?

Як так сталася, што мы дацярпелі да такога? Чаму год за годам, крок за крокам мы пагаджаліся з тым, што адбывалася? Што павінна яшчэ здарыцца, каб абудзілася наша годнасць? Дзе тая апошняя рыса, пасля якой мы скажам: «Стоп! Больш так нельга!»

«Лаўлю сябе на думцы, што радуюся адносна "мяккаму" прысуду для зусім невінаватых людзей. Што гэта не пяць, не дзесяць гадоў калоніі. Хіба такому развіццю падзей хто-небудзь здзівіўся б? Вось да чаго мы дажыліся», — пракаментавала прысуд Вольга Хіжынкова.

Дажыліся, згодная. Але ці будзем з гэтым жыць? Ці маем мы права з гэтым змірыцца, ці маем права спыніцца і прыстасавацца, як рабілі шмат разоў дагэтуль? Веру, што не. Той, хто нарэшце расплюшчыў вочы і ўбачыў праўду, адчуў сваю моц, хто ўпэўнены, што мае рацыю, не зможа больш цярпець і маўчаць. Мы выгадавалі цудоўнае пакаленне новых людзей, шчырую і прыгожую моладзь. Яны выйшлі з адкрытымі тварамі супраць бязлітаснай машыны гвалту і рэпрэсій. Яны вераць у тое, што дабро пераможа.

І мы верым, што дабро пераможа. Сёння наш галоўны вораг — наш страх. Страх страціць працу, прэмію, кавалак кілбасы... Страх аказацца ў кайданках, на сутках. Колькі яшчэ страхаў жыве ў нашых галовах? Але толькі адзін страх сёння мае права на існаванне — страх яшчэ на колькі гадоў застацца без свабоды, быць паслухмяным рабом, якому не трэба сонца, бо і «цэмры багата».

Таму мы не маем права спыняцца. Мы сталі на шлях, з якога проста нельга збочыць. Як тут ні прыгадаць вядомы хіт «Ляпісаў»:

*Грай! Шукай! У снах юнацкіх твае мары!*
*Грай! Гукай! Вясны зялёнай цёплай чары!*
*Грай! Спявай! Дружна песні райскай волі!*
*Грай! Грай! Гані быкоў — вярнецца доля!*

# «Будзем змагацца далей»

**Шматдзетны бацька Сяргей Мельянец спрабаваў абскардзіць рашэнне суда Мінскага раёна, які пакараў сям'ю штрафам у 870 рублёў. Падставай сталі бел-чырвона-белыя жалюзі на вокнах прыватнага дома Мельянцоў. Гаспадара абвінавацілі ў правядзенні пікету ва ўласнай спачывальні. На шматдзетную сям'ю спрабавалі ціснуць і праз няпоўнагадовых дзяцей, піша «Белсат».**

### Паспрабавалі знізіць «градус агрэсіі»

— Жалюзі мы павесілі ў жніўні, і яны працягваюць у нас вісець, — Сяргей Мельянец вядзе на другі паверх дому, у пакой дваіх сваіх малодшых дачок, Дамінікі і Евангеліны.

Тут два акны выходзяць на вуліцу і знутры маюць бел-чырвона-белых колер, але звонку на чырвоным колеры з'явіліся малюнкі.

— Мы паспрабавалі знізіць «градус агрэсіі», падумалі з дзецьмі — і звонку зрабілі ўстаўкі, — кажа спадар Сяргей.

Так на вокнах з'явіліся хрысціянскія сімвалы: рыба, крыж, альфа і амега, а таксама сонца праўды.

— Малявалі шасцёра з сямі дзяцей — толькі адзін быў моцна заняты ўрокамі, — з гонарам кажа тата сямейства — у сям'і Мельянцоў сямёра дзяцей узростам ад двух да сямнаццаці гадоў.

### Калі б не медыкі, памёр бы

Сяргей Мельянец закончыў Мінскую багаслоўскую семінарыю. «Прапаведнік, лектар, менеджар і спявак хору», — так кажа пра сябе спадар Сяргей. «Валанцёр і выхавальнік моладзі», — кажуць пра яго паплечнікі. Але галоўны занятак — служэнне ў царкве «Святлоісціны», якому прысвяціў 20 гадоў жыцця.

Гісторыя бел-чырвона-белых жалюзі ў сям'і Мельянцоў распачалася яшчэ 10 жніўня: спадара Сяргея разам з двума братамі схапілі ў цэнтры горада, калі яны збіраліся на малітву. Усіх моцна збілі, катавалі электрашокерам. У Сяргея Мельянца хворае сэрца, і ад катаванняў ён ледзь не памёр.

— Брыгада медыкаў, якая мяне агледзела, неяк пераканала амапаўцаў, што калі мяне не дазволяць забраць, то я там памру. Толькі гэтак мяне вызвалілі, — узгадвае спадар Сяргей. — Калі б не забралі медыкі, я б памёр.

### Пікет у спачывальні

У тыя жнівеньскія дні сям'я размясціла ў доме бел-чырвона-белыя жалюзі.

— Чырвоны колер — гэта сімвал крыві Ісуса Хрыста, а белы — дараванне, якое мы атрымліваем у Бога, — тлумачыць выбар Сяргей Мельянец. — Да таго ж я хацеў бы быць салідарны з людзьмі, якія цяпер церпяць у Беларусі, я ведаю гэта на сабе непасрэдна, ведаю, як гэта выглядае. І я хачу, каб людзі, гледзячы на мае вокны, бачылі надзею.

Перад Новым годам каля дому Мельянцоў спынілася міліцэйская машына, з яе выйшаў міліцыянт і проста з вуліцы пачаў крычаць на гаспадыню пра «супрацьпраўныя дзеянні» і што «будзе горш». «Горш» не прымусіла сябе чакаць: праз пару дзён ён прывёз гатовы пратакол паводле адміністрацыйнага артыкула 23.34 — пра пікет у спачывальні.

— У судзе было заяўлена, што пікет, нібыта, мы зладзілі на сёмым паверсе, хоць дом у нас двухпавярховы, — сумна ўсміхаецца спадар Сяргей. Але, не зважаючы на такую «драбязу», суд выставіў шматдзетнай сям'і штраф памерам 870 рублёў.

### Хацелі прызнаць сям'ю сацыяльна небяспечнай

А неўзабаве ў сям'ю прыбыла праверка: адміністрацыя адразу дзвюх школаў з пасёлку Прывольны, дзе вучацца дзеці.

— Праверылі ўсё: дзе дзеці спяць, дзе вучацца, дзе харчуюцца. Мы хацелі паказаць, дзе наш сабака жыве, у яго будка ўцепленая, але яны не зацікавіліся, — смяецца спадар Сяргей. — Задавалі шмат пытанняў, запаўнялі шмат папераў, сказалі, што возьмуць усе звесткі пра «алка», «нарка» і гэтак далей. І паабяцалі на развітанне, што «гэта яшчэ не ўсё».

Сяргей вядзе на кухню: вялікая плошча пакою дазваляе тут трымаць стол, за якім сям'я збіраецца не толькі на агульны абед. Малодшыя тут бавяць час за агульным заняткам — малююць і гуляюць у настольныя гульні. Старэйшыя займаюцца на спартовых трэнажорах у суседнім пакоі ды граюць на розных музычных інструментах.

— Я быў на кухні, калі мой старэйшы сын прыйшоў з каледжу — ён вучыцца ў каледжы паліграфіі. Звычайна ў яго заўсёды ўсё добра, а тут раптам гляджу — ён увогуле «ніякі», — узгадвае Сяргей. — Запытваю, што здарылася, адказвае: тата, мяне выклікалі да кіраўніцтва каледжу. І далей сын распавёў, што яго — няпоўнагадовага падлетка — дапытвалі адразу чацвёра чалавек. Ці ён вешаў жалюзі, ці ведае, што бел-чырвона-белы сцяг — «фашысцкі». І пагразілі, што калі прыйдзе яшчэ адна папера ў каледж, то «паставяць пытанне пра выключэнне». Пасля гэтага здарэння я пайшоў паразмаўляць у каледж, а мне там адказалі, што нічога такога не было, — узгадвае спадар Сяргей.

Але і гэтым ціск на сям'ю Мельянцоў не закончыўся. Напрыканцы лютага савет прафілактыкі дзвюх школаў і каледжу сабраўся для таго, каб прызнаць сям'ю Мельянцоў сацыяльна небяспечнай. Але кампрамату чыноўнікі ад адукацыі так і не сабралі. А арганізаваны ціск на дзяцей настаўнікі патлумачылі «сігналам зверху».

### Вырашылі змагацца далей

— Канечне, на гэтым можна было спыніцца, заплаціць гэты штраф і жыць далей, — разважае спадар Сяргей. — Мая жонка, якая атрымала моцны стрэс (ды ўся нашая сям'я два месяцы жыве ў рэжыме стрэсу), яна так прапаноўвала. Маўляў, старыя жалюзі ў нас ёсць, давай дастанем іх з падвалу, вернем на месца і будзем жыць далей. Я падумаў, памаліўся, яшчэ раз параіўся з сям'ёй — і мы вырашылі, што пакінем нашы жалюзі. Мы вырашылі, што будзем змагацца далей — за свабоду, справядлівасць, за любоў.

Суддзя Мінскага абласнога суда Ірына Майко адмовілася задаволіць скаргу Сяргея Мельянца і пакінула рашэнне суда першаснай інстанцыі пра штраф у 870 рублёў без зменаў.

Цяпер Сяргей Мельянец рыхтуе скаргу ў Вярхоўны суд Беларусі.

# Латушка заклікаў узмацніць санкцыі

**У інтэрв'ю нямецкаму выданню Die Welt, якое было апублікаванае 28 лютага, Павел Латушка заклікаў ЕС узмацніць санкцыі супраць рэпрэсіўнага рэжыму ў Беларусі.**

«Кожны дзень размаўляю з актывістамі з дваровых супольнасцей, а таксама з чальцамі страйкавых камітэтаў, — распавёў Латушка. — І людзі, якія змагаюцца за свабоду ў Беларусі, пастаянна пытаюцца мяне: дзе рэакцыя Еўрасаюза? Мы тлумачым, што ЕС ужо паўгода працуе над тым, каб запусціць працэс санкцый. Мы ўдзячныя ЕС за салідарнасць. Але для нас важныя дзеянні».

«Санкцыі ЕС недастаткова, фактычна, яны не маюць ніякага эфекту. Гэта касметычныя меры. На працягу шасці месяцаў беларусы падвяргаюцца масавым рэпрэсіям па ўсёй краіне. Дзевяць чалавек былі забітыя, больш за 33 000 чалавек арыштаваныя. Мінімум 1800 чалавек зведалі катаванні ў турмах. Таксама былі арыштаваныя 500 журналістаў».

«Санкцыі не з'яўляюцца самамэтай, але яны павінны быць інструментам ціску на Лукашэнку, каб ён нарэшце перастаў мучыць беларускі народ. Санкцыі павінны прымусіць рэжым уступіць у перамовы. Лукашэнка ніколі не стане добраахвотна размаўляць з народам. Гэта можа адбыцца толькі пад ціскам».

«Гаворка ідзе пра санкцыі ЕС на розных узроўнях. Перш за ўсё, важна прыняць меры ў дачыненні да суддзяў, якія выносілі несправядлівыя прысуды. Гэта каля 400 чалавек. Многія пракуроры і следчыя таксама павінны трапіць пад санкцыі. Да гэтага часу не было ўзбуджана аніводнай справы аб забойствах мірных беларусаў».

«Санкцыі павінны быць мэтанакіраванымі і адчувальнымі для рэжыму».

# «Людзі крычалі нам: "Фашысты! Звяры!"»

Таццяна ГУСЕВА

**Аляксандр — афіцэр, які пасля выбараў звольніўся з унутраных войскаў МУС. Ён шчыра распавёў «Салідарнасці» пра тое, што бачыў па той бок барыкадаў і пра настроі ў частцы.**

На прэзідэнцкіх выбарах ён галасаваў за Ціханаўскую датэрмінова, таму што 9 жніўня быў на службе.

— Усё было як звычайна, — успамінае Аляксандр (імя зменена па просьбе героя публікацыі). — Усе часткі перад выбарамі пераходзіць на ўзмоцнены варыянт нясення службы і рыхтуюцца да спынення сапраўдных масавых беспарадкаў, а не таго, што было…

Нам паставілі задачу: ахова грамадскага парадку ў Мінску. Раніцай мы прыбылі ў горад. Што характэрна, была поўная цішыня: ні машын, ні людзей, ні міліцыі. Дзень правялі, седзячы ў машынах. Увечары далі каманду выйсці з машын і накіравацца ў бок Нямігі.

Там ішлі ланцужкі ваенных, міліцыі. Павольна адыходзілі людзі. Эпіцэнтр падзей быў бліжэй да стэлы. Чуў, як гранаты выбухалі, і бачыў, як вадамёты ехалі.

Па словах Аляксандра, у тую ноч пасля выбараў ён бачыў дваіх людзей, якія кідалі плітку ў бок вайскоўцаў. На яго вачах адзін былы высокапастаўлены сілавік біў затрыманых людзей.

— Для мяне гэта было незразумела. Апынуўшыся паміж вайскоўцамі і міліцыяй, ніхто не супраціўляўся. Навошта біць?

Да чатырох раніцы наша падраздзяленне ўдзельнічала «ў спецаперацыі па спыненні масавых беспарадкаў». Людзі, якія былі ў горадзе, крычалі нам: «Фашысты! Звяры! Што вы робіце?»

Па словах Аляксандра, у ноч з 9 на 10 жніўня такіх было няшмат, градус нянавісці да сілавікоў вырас у наступныя дні.

На працягу двух тыдняў пасля выбараў афіцэраў з часткі дадому не адпускалі. Па графіку вайскоўцы выязджалі ў горад і сядзелі ў машынах.

— Ідэолагі спрабавалі стварыць у частцы святочную атмасферу — уключалі музыку. Цікавы момант: да 9 жніўня ніхто не ставіў задачу ўжываць сілу, а пасля выбараў нам сказалі (не ў форме загаду) пры затрыманні ўжываць сілу. Прасцей кажучы, біць усіх, каб больш не выходзілі на мітынгі.

Тады Аляксандр упершыню падумаў пра звальненне.

— Важна разумець, што ў кожнага чалавека ёсць выбар. Ніхто не можа прымусіць цябе ніякім загадам дагаляць кагосьці і біць. Я праінструктаваў падначаленых з нагоды прымянення сілы: толькі ў выпадку пагрозы сабе і рэальнага злачынства. Калі людзі проста ідуць — нікога не біць.

Я думаў, што карысць ад мяне будзе больш, чым калі я звольнюся і нехта будзе кіраваць па-іншаму. Праз месяц я ўсвядоміў, што падтрымліваю гвалт, застаючыся ў частцы.

Не ўсе афіцэры прытрымліваліся такой пазіцыі. Я бачыў, як намеснік камандуючага ўнутраных войскаў збіваў нагамі чалавека, які ляжаў на зямлі. Ведаю, што адзін з начальнікаў паставіў задачу сваім падначаленым кідаць камяні ў машыны, якія сігналяць у знак салідарнасці з удзельнікамі акцый.

Звальненне Аляксандра зацягнулася на два месяцы.

— Начальства мне казала, што я пашкадую, многае страчу ў матэрыяльным плане і не знайду больш такой працы. Уся ідэалогія там заточаная на тое, што за межамі войска нас ніхто не чакае. Але людзі сыходзяць, і ніхто не паскардзіўся, што яму горш, чым было. Кантракты ў многіх заканчваюцца летам, і не ўсе плануюць іх падаўжаць.

Дарэчы, пасля 9 жніўня чацвёра афіцэраў у частцы напісалі рапарты аб звальненні. Тады на нарадзе ў вярхах закранулі гэтую тэму, маўляў, не трэба нікога трымаць, няхай сыходзяць. Іх звольнілі на працягу месяца.

Кажучы пра настроі сярод вайскоўцаў, суразмоўца адзначае, што ў тым калектыве, дзе ён служыў, працэнтаў дзесяць афіцэраў-кантрактнікаў прытрымліваюцца адэкватнай пазіцыі і разумеюць, што выбары прайшлі несумленна.

— Працэнтаў 30 разумеюць, што адбываецца, дапускаюць, што фальсіфікавалі выбары, але іх пазіцыя — мая хата з краю, няхай самі разбіраюцца. І палова — такія, як палкоўнік Крываносаў з Гомельскай вобласці, які зарад энергіі атрымаў ад Лукашэнкі.

Што тычыцца жаўнераў тэрміновай службы, то на іх лягчэй уздзейнічаць, чым на міліцыянта, які кожны дзень дадому ходзіць. Падчас тэрміновай службы ў салдатаў — інфармацыі нуль, тэлефоны забароненыя, чытаць могуць «СБ», «На варце» і «Вайсковы веснік».

Частка салдат верыла, што пратэстоўцаў 20 чалавек, ім заплацілі — і яны выйшлі на вуліцу пакрычаць. Памятаю, як у цэнтры Мінска на адной з вераснёўскіх акцый салдат убачыў частку калоны і кажа: вунь, ідуць 20 чалавек. А праз паўгадзіны ўбачыў велізарную калону ля Палаца спорту і быў моцна здзіўлены, калі зразумеў, што яго падманваюць. Убачанае на маршах моцна паўплывала на салдат.

Цяпер Аляксандр шукае новую працу і набывае новую прафесію. Яму ўхвалілі заяўку фонд BYSOL, створаны для аказання дапамогі і падтрымкі тым, хто страціў працу па палітычных прычынах.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Без ідэй у бясконцым коле

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Гледзячы на навіны і вынікі тыдня, мне згадваецца знакаміты хіт гурта «Віа Гра» пад назвай «Забі маю сяброўку». Асабліва тыя радкі, дзе пяецца: «З-за яе мы ходзім па коле». Хаджэнне па коле — гэта тое, чым займаюцца ўладныя структуры. Усё старое і нічога новага.**




Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

Напрыклад, Камітэт дзяржкантролю ўзяўся за аптэкі, якія падвысілі кошты на лекі. Дый Лукашэнка прыгразіў прыватным аптэкам закрыццём, калі кошты на лекі і медыцынскія вырабы будуць павышацца.

Але ж кошты ўзняліся не проста так. Яны папаўзлі ўверх таму, што самі гэтыя ўлады ўвялі ў дзеянне змены ў Падатковы кодэкс. Згодна з імі, на ўвоз і продаж лекаў з'явілася 10-працэнтная стаўка ПДВ. І, адпаведна, цэны ўзраслі на гэтую стаўку. Але КДК і Лукашэнка чамусьці не займаюцца дэпутатамі, што, не думаючы, «падмахнулі» змены ў кодэкс. Не займаюцца яны і тымі, хто распрацоўваў гэтыя змены — а як зоймешся Адміністрацыяй прэзідэнта? Карацей, самі нахамуталі, а вінаватымі робяць аптэкі.

«Старую песню пра галоўнае» завялі ўлады і яшчэ ў адной галіне. Мы ўжо стаміліся лічыць, колькі разоў Лукашэнка абвяшчаў вайну пасярэднікам. Маўляў, «пасярэднікі спрыяюць павышэнню кошту тавару працэнтаў да 30, а то часам і больш».

Калі гучаць такія прамовы, я заўсёды згадваю журналісцкі эксперымент з тых часоў, калі той жа Лукашэнка запатрабаваў актыўна прадаваць трактары МТЗ. Калегі з TUT.BY вырашылі пазваніць на завод і паспрабаваць набыць трактар. Яны тэлефанавалі ўвесь дзень. Слухаўку ў аддзеле продажаў так ніхто і не зняў. Давялося звяртацца да тых самых «пасярэднікаў», якія любяць і ўмеюць гандляваць.

Змагацца з пасярэдніцтвам вельмі проста: трэба вучыцца гандляваць. І не варта тут «уносіць адпаведную прапанову». Проста патрэбна нармальная якасць прадукцыі, нармальны аддзел продажаў, нармальны маркетынг. Але навошта нашым тым жа самым «флагманам» нармальны маркетынг, калі яны прызвычаіліся сядзець на дзяржаўных датацыях? Калі ім усё роўна спачатку дадуць крэдыты, потым спішуць крэдыты, і так — па коле?

Ну і, канешне, усіх узрушыла навіна пра забарону падымаць кошты на «сацыяльна значныя тавары». У адпаведнасці з пастановай Саўміна Беларусі, з 1 сакавіка дэ-факта ўведзена фіксацыя розьнічных цэн на прадукты харчавання, тавары і лекавыя сродкі першай неабходнасці — змяненне цэн на гэтыя тавары не можа перавышаць 0,2% у месяц да цаны, якая склалася на апошні дзень папярэдняга месяца.

Некаторыя эканамісты нават падумалі, што ўрад Галоўчанкі займаецца сабатажам, бо такое «рэгуляванне» можа прывесці да дэфіцыту альбо вымывання з краіны валюты. Таму што рэгуляванне цэнаў закранула канчатковы прадукт, але не закранула сыравіну, патрэбную для стварэння гэтага прадукту.

Напрыклад, пазіцыя №36 — яйкі курыныя. Для таго, каб куры нясліся, трэба іх карміць. Ім патрэбныя мінеральныя дабаўкі. Ім патрэбна цёплае памяшканне (затраты на ацяпленне) і дастаўка тых самых яек да спажыўца. Корм для птушак — даражэе, электрычнасць — даражэе, паліва на тыдні зноў падаражэла. А падвышаць кошт на яйкі забаронена. У выніку птушкафабрыкі «сыходзяць у мінус», і ім застаецца толькі пускаць птушку пад сякеру, бо яйкі прадаваць нявыгадна.

А што такое яйкі? Гэта выпечка, гэта кандытарка, гэта маянэз, і нават цеста для пельменяў — гэта таксама яйкі. Такім чынам, адсутнасць яек выклікае «ланцужок катастроф». А значыць, той жа самы маянэз трэба аднекуль даставаць. Адкуль? Самы просты спосаб — купіць, напрыклад, у Расіі. «Купіць у Расіі» — гэта марнаваць валюту.

Народ гэта разумее. Днямі маці папрасіла мяне набыць ёй еўра, каб захаваць свае зберажэнні. У банку, куды я пайшоў удзень пятніцы, 26 лютага, засталіся толькі купюры па 20 еўра. А значыць, народ ужо зразумеў, што ні да чаго добрага ініцыятывы нашага ўраду не прывядуць, і звыкла пачаў скупаць валюту.

Улады ж ігнаруюць падказкі айчынных экспертаў. Але нават Еўразійскі банк развіцця — наша ці не асноўная крэдытная крыніца — зазначыў: «Доўгае прымяненне такіх мераў (абмежаванне коштаў. — Рэд.) павышае верагоднасць узнікнення дэфіцыту асобных тавараў і паскоранага павелічэння коштаў на тавары, якія не адносяцца да сацыяльна значных першай неабходнасці».

Бліжэй да Вялікадня мы пабачым, ці будзем мы са звыклымі прысмакамі. Бо кулічы на Вялікдзень — гэта таксама ўсё тыя ж яйкі.

І яшчэ адзін паказчык нашага «мудрага кіравання»: «Е-дастаўка» ад «Еўраопта» пачала прапаноўваць тавары ў крэдыт. У асноўным «Е-дастаўка» рэалізуе прадукты, то-бок у «стабільнай і квітнеючай» Беларусі з'явіўся… крэдыт на ежу! Прычым, вельмі дарагі крэдыт — 25% гадавых на 36 месяцаў. Выдатны вынік 26-гадовага кіравання Лукашэнкі!

Што тычыцца навінаў з іншага боку, то і тут пакуль зацішша. Шмат увагі прыцягнула інтэрв'ю Ціханоўскай, якая спадзяецца, што Лукашэнка сыдзе ўжо ўвесну. Яе падтрымаў і Павел Латушка, які разлічвае, што «вырашальная бітва» паміж пратэстоўцамі і сённяшняй уладай адбудзецца ўвесну.

І ўсе пачалі абмяркоўваць, сыдзе Лукашэнка ўвесну ці не сыдзе. Напрыклад, палітолаг Павел Усаў зазначае, што пакуль ніякіх перадумоў сыходу не бачна — рэжым не настолькі дэкансалідаваны, каб разваліцца бліжэйшым часам. У чымсьці яго пазіцыя і слушная, аднак мы бачылі шмат фантастычнага апошнімі часамі.

Але ўвагі заслугоўвае думка аднаго з лідараў «Гавары праўду» Андрэя Дзмітрыева, які ў гэтай спрэчцы заявіў, што не трэба спадзявацца ні на «ўльтыматумы» Расіі, ні на «глыбокую заклапочанасць» Захаду. Трэба, як казала Марыя Калеснікава, «дзяўбсці, дзяўбсці, дзяўбсці гэтую ўладу», пакуль яна не зрынецца. Карацей, без нашай ініцыятывы і моцы духу, без нашых дзеянняў — нават самых маленькіх і, нібыта, незаўважных, — нічога не атрымаецца.

Пакуль беларусы застылі ў чаканні. Падаецца, маштабным зрухам у вулічнай актыўнасці павінен быць традыцыйны Дзень Волі — недзе ў раёне 25 сакавіка. І толькі наша актыўнасць будзе спрыяць зменам у краіне.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Вольга Барабаншчыкава

**Вядомая беларуская тэнісістка (49-е найвышэйшае месца ў сусветным рэйтынгу) перайшла на родную мову. Пра гэта яна распавяла ў сацсетках.**



«Прыгажосць беларускай мовы, — напісала Вольга Барабаншчыкава на сваёй старонцы ў Facebook. — Сёння, калі я пачала размаўляць на беларускай мове, мне стала крыху сорамна і хвалююча. Але чаму мне павінна быць сорамна? — падумала я адразу. Бо мы ж не вінаватыя ў тым, што ў нас так пастаўлена адукацыя. Калі кожны гаворыць на рускай, і першая мова дакладна не беларуская. Я лічу, што не трэба саромецца гаварыць на сваёй мове. Мне здаецца, нам варта чытаць пабольш нашай роднай літаратуры, таго ж Караткевіча і іншых выдатных беларускіх паэтаў і пісьменнікаў. Дзякуй ім за тую спадчыну, якую менавіта яны захавалі для ўсіх нас, будучых пакаленняў. Калі б не яны — у каго б мы вучыліся?»

«Асабіста мне было дзіўна ўсведамляць, што мая англійская і нават польская ў разы лепшыя, чым мая родная беларуская мова. Але я яскрава разумею, што ніколі не позна вучыцца! Тым больш, наша мова такая цудоўная, адна з самых прыгожых у свеце!» — напісала тэнісістка.

Яна адзначыла, што сапраўдная беларуская мова — «вельмі мяккая і меладычная».

«А вам падабаецца беларуская мова? Хацелі б, каб у нашай краіне больш людзей размаўляла па-беларуску?» — запыталася Барабаншчыкава.



## Уладзімір Мартаў

**У Віцебску звольнілі лекара-рэаніматолага, які першым у Беларусі сумленна казаў пра ковід.**

Уладзімір Мартаў — загадчык аддзялення анестэзіялогіі і рэанімацыі гарадской клінічнай бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі (БХМД). Лекар пацвердзіў TUT.BY, што атрымаў апавяшчэнне пра непадаўжэнне працоўнага кантракту і 2 красавіка «забраў працоўную кніжку». Працоўны кантракт не працягнулі — і звольнілі лекара «ў сувязі з заканчэннем тэрміну яго дзеяння». Медык адзначыў, што гэта для яго «чакана».

Уладзімір Мартаў стаў адным з першых лекараў у Беларусі, хто яшчэ ў красавіку 2020 года, калі ўлады запэўнівалі, што ніхто ад COVID-19 у нас не памірае, не пабаяўся заявіць, што праблема ёсць, і яна сур'ёзная.

У траўні мінулага года ён распавёў пра свой вопыт лячэння хворых з каронавірусам у рэанімацыі.

У лістападзе доктар Мартаў даў вялікае інтэрв'ю TUT.BY пра другую хвалю ковіда. Рэаніматолаг казаў, што канкрэтна Віцебск «палаў» ад інфекцыі менш, чым вясной, але сцэнары ў хваробы былі самыя розныя: паміралі і маладыя, і прыхільнікі ЗЛЖ. А для лекараў на новай «вайне» адкрыўся яшчэ і «другі фронт» — палітычны.



## Мікалай Казлоў

**Лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі трапіў на 15 сутак на Акрэсціна па звычайным артыкуле за непадпарадкаванне супрацоўніку міліцыі, але па незвычайных абставінах.**

Казлоў праходзіць сведкам па так званай «справе Каардынацыйнай рады». Але, у адрозненне ад іншых, лідар АГП адмовіўся даваць падпіску аб неразгалошванні матэрыялаў следства і абставінах яго допыту. Гэта і было расцэнена як непадпарадкаванне патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі.

18 лютага Казлова асудзілі на 15 сутак за адмову ў СК даваць падпіску аб неразгалошванні. Пратакол на Казлова склаў 12 студзеня ўчастковы Партызанскага РУУС пасля таго, як ён тройчы запар адмовіўся даваць падпіску аб неразгалошванні падчас допыту ў Следчым камітэце па «справе Каардынацыйнай рады». Суд Партызанскага раёна раней адпраўляў яго справу на дапрацоўку. Суддзя Макарэвіч асудзіў Мікалая на 15 сутак, але ў зале суда палітыка не затрымалі.

Казлова павінны былі судзіць яшчэ і 26 лютага — таксама па артыкуле 23.4 КаАП за адмову даваць падпіску аб неразгалошванні, але суд перанеслі на нявызначаны тэрмін.

Азбука паліталогіі

# Пра патрыятызм і кішэчных паразітаў



Сяргей НІКАЛЮК




**Беларуская палітыка — дакладней, тое, што на афіцыйным узроўні лічыцца ў нас палітыкай, — не здольная функцыянаваць у канкурэнтным асяроддзі. Адзінства, адзінства і яшчэ раз адзінства! Адзінства ў грамадстве. Адзінства ў эліце. І — як вышэйшая праява нацыянальнай своеасаблівасці — суцэльнае згуртаванне ўсіх, незалежна ад іх сацыяльнага статусу, вакол фігуры «моцнага лідара».**

Вынікам згуртавання з'яўляецца ўнікальны сацыяльны атам, ён жа Беларуская мадэль. Тым, хто забыў школьны курс хіміі, нагадаю: звыклае нам слова «атам» у перакладзе са старажытнагрэчаскай мовы азначае «непадзельны», «той, які нельга разрэзаць».

Праз адсутнасць канкурэнцыі, у беларускую эліту рэкрутуецца асаблівы сацыякультурны тып чалавека (пад «элітай» аўтар разумее не лепшых, а тых, хто надзелены правам прымаць канкрэтныя рашэнні). Здольнасць, адчуўшы на сабе позірк начальніка, ускокваць і заміраць слупком, нібы суслік, з'яўляецца своеасаблівым пропускам у айчынную «эліту».

Чалавек-суслік (чалавек іерархічны — паводле тэрміналогіі сацыёлагаў «Лявада-цэнтра») не заклапочаны абгрунтаваннем уласных меркаванняў. Як прапаршчык са старога анекдота, ён не думае. Ён атрымлівае каманды — і трасе, і пры гэтым часам прамаўляе тое, што лепей было б схаваць.

### Спуску не будзе

Звярнуся па дапамогу да Вікіпедыі: «Нацыянальныя інтарэсы — аб'ектыўна значныя мэты і задачы нацыянальнай дзяржавы як цэлага. Уяўляюць сабой разнавіднасць палітычных інтарэсаў».

Прапаную ўважліва перачытаць вызначэнне. Нацыянальныя інтарэсы — разнавіднасць палітычных інтарэсаў. Але ў соцыуме, скантруяваным паводле прынцыпу атама, не можа быць палітычных інтарэсаў. Іх месца займае асабісты інтарэс лідара, дакладней, кіруючага клана, які штатнымі прапагандыстамі і выдаецца за нацыянальныя інтарэсы.

Але часам здараюцца праколы, і замест нацыянальных інтарэсаў нам з самых высокіх трыбун кажуць пра інтарэсы дзяржавы, г.зн. інтарэсы бюракратыі, аб'яднанай ва ўладную «вертыкаль».

Дадзім слова адзінаму палітыку (АП): «...у бізнесе і вытворчасці — адны законы і парадкі. А ў палітыцы — іншыя законы. < ... > Бізнесмены, пачынайце працаваць на дзяржаву. Спуску вам не будзе, калі вы адступіцеся ад гэтай лініі. Я буду ад вас патрабаваць гэтага, пакуль буду ў гэтым крэсле. Нікога не запалохваю, але будзем працаваць на роўных умовах».

Сарваўся чалавек. Пагарачыўся. Працаваць на дзяржаву! А чаму не на грамадства, не на сябе і сваіх сямейнікаў?

Як тут ні прыгадаць заснавальніка сучаснай эканамічнай тэорыі Адама Сміта (1723–1790), які ў «Багацці народаў» адзначаў: *«Не з ласкі мясніка, півавара або булачніка мы чакаем атрымаць свой абед, а ад дбання імі пра свае ўласныя інтарэсы* (вылучана. — **С. Н.**). Мы звяртаемся не да іх гуманнасці, а да іх эгаізму, і ніколі не гаворым ім пра нашы патрэбы, а толькі пра іх выгады...»

Персанажы «Багацця народаў», заклапочаныя ўласнымі праблемамі, тым не менш працавалі на агульны дабрабыт. Ролю каардынатара паміж асабістым і грамадскім пры гэтым выконвала «нябачная рука рынку». Але ў беларускай мадэлі, ужо ў момант яе стварэння, «нябачнай руцэ» надавалі па руках. Але ў тым Беларуская мадэль і палягае — гэта і было пацверджана на VI Усебеларускім народным сходзе.

Спуску беларускім мяснікам, півоварам і булачнікам не будзе. Хто б сумняваўся! Але гісторыя вучыць: калі прыватніка прымушаць кіравацца ў першую чаргу дзяржаўнымі інтарэсамі, а не асабістымі, то з часам не будзе ні мяса, ні піва, ні булак. Нездарма ў старадаўнім рускім горадзе Кастраме, у якім аўтару «Азбукі паліталогіі» пашчасціла нарадзіцца, да перабудовы не было ні мясных, ні малочных аддзелаў у крамах.

### Ад прыбытку да стратаў

Булачнік, заклапочаны асабістым дабрабытам, памнажае грамадскі дабрабыт і карысць. Чыноўнік, заклапочаны асабістым дабрабытам, наадварот, зніжае яго. У Беларусі нескладана разгледзець абедзве тэндэнцыі. Але якая з іх дамінуе? Адказаць на гэта пытанне нам дапаможа афіцыйная статыстыка, якая штомесяц публікуецца Нацыянальным статыстычным камітэтам.

Сума чыстых стратаў стратных арганізацый у 2020 годзе склала 6,1 мільярда рублёў і павялічылася адносна 2019 года ў 3,5 раза! Чысты ж прыбытак прыбытковых арганізацый, наадварот, скараціўся на 57,4% — да 6,1 мільярда рублёў. Іншымі словамі, Беларуская мадэль у цэлым спрацавала ў мінус, што не перашкодзіла яе прыхільнікам сабрацца разам у Палацы Рэспублікі і ў чарговы раз ухваліць адзіна правільны курс. Балазе, савецкі вопыт бурных і працяглых апладысментаў у нас яшчэ да канца не згублены.

«У навуковым метадзе, — адзначаў у сваёй працы «Эпоха перамен» сацыяльна чужы Беларускай мадэлі амерыканскі фінансіст і філантроп Джордж Сорас, — ісціна важнейшая за ўсё. Навуковая тэорыя ўяўляе каштоўнасць, толькі калі яна дакладная. У палітыцы і іншых сферах грамадскага жыцця справы ідуць інакш, і лжывыя ідэі могуць аказацца паспяховымі. Што тады важнейшае: шукаць ісціну або дамінаваць?»

Цяжкасцяў з пошукам адказу на пытанне фінансіста і філантропа ў бацькоў беларускай мадэлі не ўзнікае. Створаная пад іх кіраўніцтвам мадэль — гэта мадэль нічым не абмежаванага дамінавання невялікай і досыць згуртаванай групы «дапушчаных да дзяржаўнага стала».

Такі тып панавання мае патрэбу ў ідэалогіі, што навіной для беларусаў не з'яўляецца. Зноў працытую Сораса: «Ідэалогія, стаўшы пануючай, можа выгнаць страшныя прывіды няўпэўненасці і дэфіцыту мэтаў, усяліць у людзей пачуццё гонару і задаволенасці. Аднак закрытыя грамадствы імкнуцца да жорсткага кантролю словаў, думак і звяртаюцца да розных формаў рэпрэсій, каб навязаць людзям сваю версію грамадскіх інтарэсаў, якія ставяцца вышэй за асабістыя».

### Не ўсё так безнадзейна

Сярод найбольш паспяховых ідэалогій у XX стагоддзі (калі лічыць па колькасці прыхільнікаў) варта прызнаць камуністычную, нацысцкую і фашысцкую. Усе яны прэтэндавалі на валоданне ісцінай у апошняй інстанцыі. Але паколькі канчатковых ісцін у гуманітарнай сферы не існуе, бацькі ўсіх трох ідэалогій вымушаныя былі з дапамогай прапаганды замяняць рэальнасць на віртуальныя сурагаты.

Ідэалогія — гэта сродак успрымання інфармацыі. Калі чалавеку з раніцы да вечара казаць, што ён свіння, то ён зарохкае. Калі палохаць знешнімі ворагамі, для якіх незалежнасць і суверэнітэт Беларусі нібы костка ў горле, то ён пачне ў гэтыя жахі верыць.

Попыт на ідэалогію ўзрастае ва ўмовах сацыяльнай турбулентнасці. Першая сусветная вайна і стала трыгерам, які запусціў у Еўропе працэс фарміравання ідэалогій.

Здавалася б, у рэспубліцы-партызанцы, якая прэтэндуе на ролю донара еўрапейскай стабільнасці, патрэба ў ідэалогіі не можа сфарміравацца па вызначэнні. Аднак пачынаючы з вясны 2003 года задача па распрацоўцы дзяржаўнай ідэалогіі была ўключаная ў шэраг прыярытэтных. Варта звярнуць увагу на прыметнік «дзяржаўная». Ён не выглядае чужародным у дзяржаве, якае прэтэндуе на наяўнасць уласных інтарэсаў.

Але інтарэсы беларускай дзяржавы палягаюць у дамінаванні. З базавымі інтарэсамі народа яны не звязаныя. Народ — толькі сродак для ўзбагачэння тых, хто хаваецца за слоганам «дзяржава для народа». Па факце ж мы маем не дзяржаву для народа, а народ для дзяржавы.

Акрамя здольнасці заміраць, нібы суслік, слупком, абавязковай умовай для знаходжання сярод «дапушчаных да дзяржаўнага стала» з'яўляецца патрыятызм — зразумела, патрыятызм дзяржаўны. І вось ужо ў часопісе Інстытута сацыялогіі НАН РБ чытаем пра захаванне «пачуцця дзяржаўнага патрыятызму» ва ўмовах «масіраванай інфармацыйнай агрэсіі». Бывай, Радзіма! Добры дзень, дзяржава!

Але як дасціпна заўважыў філосаф Барыс Кашнікаў: «З такім жа поспехам кішэчнага паразіта можна лічыць патрыётам унутраных органаў».

***

Па меры фарміравання дзяржавы для народа колькасць яго ўнутраных органаў узрастае. Адпаведна, расце і попыт на носьбітаў дзяржаўнага патрыятызму. Але не ўсё так безнадзейна: 2020 год прадэманстраваў, што адмова дзяржаве ў падтрымцы выдатна спалучаецца з любоўю да Радзімы.

# Аляксандра Слуцкая: «Я ведаю, што хутка змагу абняць маму»

Аксана КОЛБ

**«Калі мама выйдзе на волю, я прывязу яе дахаты. Сяду на падлогу каля яе, абдыму за ногі, і буду так сядзець, доўга-доўга. І нікуды не адпушчу. Нават калі яна захоча кудысьці пайсці, я буду моцна трымаць яе. Як у дзяцінстве», — кажа Аляксандра Слуцкая, дачка кіраўніцы Прэс-клубу Юліі Слуцкай.**



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

Мы сустрэліся з Сашай паміж яе паездкамі ў СІЗА, да адвакатаў, зборам перадач, паходамі на пошту і яшчэ безліччу розных спраў, якія цяпер сталі для яе амаль руцінай. Усе яе высілкі скіраваныя на тое, каб зрабіць усё магчымае для мамы і брата, якія ўжо больш за два месяцы знаходзяцца ў СІЗА №1.

— Майго мінулага жыцця больш няма, майго жыцця больш няма... — Саша не жаліцца, яна проста спрабуе пераказаць тое, што зараз з ёй адбываецца. — Мы нібыта памяняліся з мамай месцамі. Цяпер я — мама для яе. Гэта вельмі дзіўнае адчуванне. Так сталася, што я вырашаю, што мама будзе есці, у што апранацца, што чытаць, нават чым будзе мыць галаву і чысціць зубы. Я сустракаюся з яе сябрамі... Трэба сказаць, што мне гэта падабаецца, мне так лягчэй. Значна горш на выходных, калі няма ўсіх гэтых спраў і калі не прыходзіць пошта.

Паўсядзённыя справы не даюць мне засмучацца. Я цэлымі днямі нечым занятая. То сустракаюся з адвакатам, то выбіраю рэчы для мамы, то абдумваю, што ёй сабраць на перадачу. Пры любым выпадку праходжу каля Валадаркі, каб хоць так быць бліжэй да мамы. Для мяне гэта своеасаблівая тэрапія.

А яшчэ я ёй пішу. Пішу кожны дзень. Апісваю ўсё, што адбываецца. Пытаюся маміных парадаў. Мы з мамай дамовіліся, што а 10-й вечара будзем у думках размаўляць. І цяпер кожны вечар размаўляем. У думках яна прыходзіць да мяне ў госці, я прыходжу да яе. Мы разам гуляем. Абмяркоўваем прачытанае. Я, дарэчы, адмыслова пытаюся ў мамы ў лістах, што яна зараз чытае, каб чытаць тое ж і мець магчымасць гэта абмяркоўваць. Так што я кожны вечар разам з мамай, мы перашэптваемся, пляткарым, дзелімся сакрэтамі, як і раней, нібыта няма паміж намі кратаў...



**Аляксандра Слуцкая з мамай і братам. Фота з сямейнага архіва**

Мама нарадзіла мяне ў 19 гадоў. Я заўсёды выхвалялася сваёй маладой мамай. І мы ўвесь час былі з ёй сяброўкамі. Але разам з тым мама для мяне — аўтарытэт, я хацела вырасці і быць падобнай да яе. Спадзяюся, што хоць у нечым я сапраўды падобная да мамы. Самае страшнае ў дзяцінстве было ўбачыць у маміных вачах расчараванне. Яна ніколі не сварылася, ніколі не наракала.

У мяне вельмі шмат самых цёплых успамінаў з дзяцінства. У самыя цяжкія часы (а маё дзяцінства прыйшлося на 90-я) мама старалася зрабіць так, каб у нас было ўсё. Я памятаю мой ружовы штроксавы камбінезон, які мама сама мне пашыла. Мама, якая дагэтуль нават не ўяўляла, як гэта зрабіць. А яна пашыла, і я памятаю, як ён мне падабаўся. Памятаю, як на апошнія грошы мы паехалі адпачываць у Балгарыю — і мама рабіла ўсё, каб мы запомнілі гэты адпачынак. Памятаю, як калі мне было каля 4 гадоў, мы гулялі ў парку і знайшлі параненае ваверчаня. Мы яго забралі дахаты, выхадзілі і выкармілі...



**Тое самае выратаванае ваверчаня. Фота з сямейнага архіва**

У мяне самая лепшая мама ў свеце. І мама ведае, што я яе вельмі люблю. А я ведаю, што хутка змагу яе абняць. Яе і майго Пецю, самага лепшага брата. Я цяпер сню шмат каляровых сноў, такіх яркіх і дзіўных. У іх мы разам, пасля яе вызвалення, у розных месцах, у нейкім не вельмі добрым савецкім санаторыі, яшчэ недзе. Але мы разам. І я чую, як мама чхае. Ведаеце, у маёй мамы проста фірмовае чханне. Яна ніколі не чхае адзін раз, заўсёды не менш за тры. І вось у сне я чую: чыхчых-чых-чых-чых. Пяць разоў! І раптам бачу нашы сцягі... Вось такія сны.

Вы ж ведаеце, што маму затрымалі, калі мы вярталіся з адпачынку ў Егіпце. Мы былі там разам з маімі дзецьмі Арсенем і Алісай. На дзіва, я змагла як ніколі пабыць побач з мамай, дзеці збольшага нам не перашкаджалі, займаліся сабой самі. Мы шмат гулялі, размаўлялі, я, як у дзяцінстве, залазіла пад коўдру да мамы. Нагаварыліся пра ўсё-ўсё. Я вельмі падзарадзілася гэтым адпачынкам. Спадзяюся, і мама таксама.

Дарэчы, у Егіпце мы забыліся зайку, якога калісьці Алісе падарыла мама. Аліса вельмі перажывала. Такіх у нас няма, мама прывезла яго з замежжа. Я напісала пра гэта ў сацсетках. І, на дзіва, праз нейкі час нам прывезлі такога ж зайку. Але самае дзіўнае, што на наступны дзень прыйшоў ліст ад мамы, у якім яна напісала для Алісы казку пра Зайку, які згубіўся, але праз усе выпрабаванні зноў вярнуўся да сваёй гаспадыні.

Так і мама мая хутка да мяне вернецца. І брацік мой. Я гэта дакладна ведаю. Але пакуль гэта не здарылася, я буду рабіць усё, што ад мяне залежыць. А яшчэ я не разбіраю елку. Яны вернуцца — і мы ўсе разам адзначым Новы год.

Я, канечне, перажываю за яе здароўе. Але яна ў мяне моцная, з жалезным стрыжнем унутры. А яшчэ вельмі таленавітая, добрая, адданая, лепшы ў свеце чалавек.

Мама пісала, што ёй вельмі не хапае позірку ў далечыню, птушыных спеваў, сонца, гукаў і пахаў. А ў мяне зараз яе шалік, я прытуляю яго да твару і дыхаю-дыхаю, у яго мамін водар. У мяне засталася маміна касметыка, яе парфума (гэта было ў маёй валізцы ў аэрапорце). І зараз я імі карыстаюся, каб падыхаць маміным водарам. Канечне ж, я сумую, але я ведаю, што ўсё будзе добра.

Я спадзявалася, што маме зменяць меру стрымання. Гэтага не здарылася, але гэта не значыць што цяпер я буду ў роспачы. Не, гэта толькі надало мне новы імпульс. І тое, што цяпер адбываецца, — вельмі цяжкі, але такі важны і, на жаль, неабходны этап да нечага новага і прыгожага. Штуршок, каб падняцца наверх. Я дакладна ведаю. Таму зараз сціскаем зубы і змагаемся. І дакладна ведаем, што наперадзе — вялікае шчасце.

Я ведаю, што мама амаль не атрымлівае лістоў, хоць сотні людзей ёй пішуць. А яшчэ больш людзей змагаюцца за яе і за ўсіх, хто сёння за кратамі. Прама зараз рэкі здаюцца непераадольнымі, а горы непраходнымі. Але гэта толькі здаецца. У дзяцінстве мама мне расказвала прыпавесць пра дзвюх жабак, якія трапілі ў збанок са смятанкай. Сітуацыя здавалася бязвыхаднай, і адна перастала боўтацца, і патанула. А другая ўзбіла масла і выскачыла. Мама навучыла мяне быць другой жабай.

У мяне з мамай заўсёды была вельмі моцная ментальная сувязь, а цяпер мне наогул здаецца, што мы з ёй адно цэлае. І зараз мне хочацца ёй сказаць: «Калі ласка, не падай духам! Калі я буду гэта ведаць — я ўсё змагу. Вельмі-вельмі цябе люблю і ганаруся тым, што я — твая дачка. Ганаруся да мурашак па целе. Мы разам, мы побач. За намі праўда. А ў праўды такая аграмадная сіла, што яна ўсё зможа перамагчы.

* * *

Я размаўляла з Сашай і спрабавала ўявіць, як адчувала б сябе на яе месцы мая дачка. Што б дасылала я ў лістах свайму ўнуку. Магчыма, таксама б казкі і малюнкі. Сёння за кратамі сотні і сотні мамаў і татаў, жонак і мужоў, бабуль і дзядуляў, сыноў, дачок, унукаў. Тых, хто меў гонар выйсці на абарону вольнай і незалежнай Беларусі. Лепшых людзей нашай краіны. Мы пакуль на волі, а таму павінны цяпер зрабіць усё, каб яны як мага хутчэй змаглі ўбачыць сваіх родных.

# Алег Рубец: «Вельмі вас прашу

Ксенія ЛІЦВІНОЎСКАЯ

**Алег Рубец у лютым абвясціў галадоўку і трапіў у карцар. Вячаслаў Рагашчук, якога збівалі некалькі дзён, перанёс мікраінсульт, але ў медыцынскім абследаванні яму адмаўляюць. Сяргей Ляжэнка супакойвае, што ў яго ўсё добра, і «чакае вясны». Родныя распавялі пра стан палітвязняў «пінскай справы» і свае чаканні.**


Алег Рубец


Алег Рубец — другі злева, трэці злева — Данііл Богнат

«Пінская справа», па якой праходзіць 14 чалавек, перададзеная ў суд. Адзін з фігурантаў справы знаходзіцца пад хатнім арыштам, астатнія — у СІЗА. Праваабаронцы прызналі ўсіх іх палітвязнямі.

## Галадоўка і карцар

Галадоўку Алег Рубец абвяшчаў у знак пратэсту — супраць таго, што яму абмежавалі ліставанне. Асабліва не прапускалі лісты ад сяброў і да сяброў. «Ад нас яшчэ з горам напалам, ад сваякоў, ад мамы, ад таты даходзяць, а больш ні ад каго, — распавяла Тацццяна, другая маці Алега. — Ён спрабаваў высветліць гэтае пытанне ў адміністрацыі. Не атрымаў адказу, вырашыў выказаць свой пратэст у такой форме. Пяць дзён галадаў».

І быў змешчаны ў карцар на 6 сутак. Паводле афіцыйнай версіі, ён парушыў рэжым. Не ўстаў раніцай з ложка.

Затрымалі Алега 10 жніўня разам з сябрам Даніілам Богнатам. Пры затрыманні, паводле слоў сведкаў, жорстка збілі. У будынку ГАУС і ІЧУ (вул. Кірава, 53 у Пінску) яны правялі чатыры дні. Ніякай інфармацыі родным не давалі. На чацвёртыя суткі пазваніла адвакатка і патлумачыла, што Алег затрыманы. Яму прад'яўлена абвінавачанне па ч. 2 арт. 293 — «Удзел у масавых беспарадках».

Паводле неафіцыйных даных, больш за 400 чалавек прайшлі праз рэпрэсіі мясцовых органаў міліцыі. Хлопцы, якія адседзелі трое сутак і атрымалі адміністрацыйныя штрафы, распавялі, што Алег і Данік былі збітыя супрацоўнікамі міліцыі.

З 14 жніўня Алег знаходзіцца ў СІЗА ў Баранавічах. Спатканняў з роднымі не даюць. «Ён у нас хлопец дастаткова моцны і смелы. Праўдаруб, вельмі прынцыповы, — кажа Тацццяна. — Перажываем за здароўе, ён астматык. Хоць лекі і дазволілі перадаць. За гэты перыяд ён памяняў каля дзясятка камер. Часам нават некалькі разоў на тыдзень пераязджае з камеры ў камеру. "Кругасветка" ў яго такая. Уключаюць ім радыё на ўсю гучнасць. Кніжкі чытае. У адным з лістоў напісаў, што вельмі хоча прачытаць кніжку "Архіпелаг ГУЛАГ". І мы адправілі яму гэту кніжку па пошце. Больш за месяц не выводзяць яго на прагулку. Перасталі прымаць вітаміны ў перадачах».

Як паведамляюць сваякі, палітвязні пастаўленыя на «прафілактычны ўлік». Кожную раніцу падчас праверкі павінны казаць адну фразу: пра схільнасць да захопу закладнікаў і праяў агрэсіі. «Даслоўна я не магу сказаць, як яна гучыць. Сэнс у тым, што схільны да захопу адміністрацыі, да тэрарыстычных дзеянняў, да беспарадкаў», — адзначыла Тацццяна.

Алег Рубец скончыў Пінскі прафесійна-тэхналагічны каледж машынабудавання па спецыяльнасці «Трактарыст».

Тацццяна выхоўвала Алега з 9 гадоў, пасля таго, як пабралася шлюбам з іх бацькам. Справа ў тым, што пасля разводу Алег і яго старэйшы брат выказалі жаданне жыць з татам. «З першых дзён мы з Алегам зблізіліся, — сказала Тацццяна. — Хоць я яго і не нараджала, але ён — маё дзіця. Родны, блізкі чалавек, за якога ў мяне вельмі моцна баліць душа. Як за сваіх дзяцей, я не дзялю іх».

26 лютага Алегу Рубцу споўнілася 19 гадоў.

## «Славу білі больш за дзесяць супрацоўнікаў»

Вячаслаў Рагашчук быў затрыманы 10 жніўня ў 22:30 на вачах сястры Кацярыны: «Каля майго дома. Я выйшла яму насустрач са сваім сынам. Пад'ехала машына, мяне "за шкуру" адкінулі, сына майго адкінулі, ён упаў. Славіка закруцілі. Быў такі хапун. Яны проста ўсіх туды, на Кірава, 53, кідалі, кідалі, кідалі»...

З роднымі звязаўся хлопец, які сядзеў з Вячаславам Рагашчуком у пінскім ІЧУ, і распавёў: «Вячаслаў быў жахліва збіты, ён быў увесь сіні. Яго выводзілі і збівалі на працягу чатырох дзён».

«Па-зверску білі. 10 жніўня яго збівалі больш за 10 супрацоўнікаў, — перадае расповед сведкі сястра. — Ён ляжаў на падлозе, у кайданках, тварам уніз. Па галаве білі. Білі паўсюль. А потым выводзілі і білі, і білі, і білі... На сінім целе з'яўляліся чорныя сінякі. Па пазваночніку — проста палкай, круглыя чорныя сінякі, як выбівалі яго. Яго выводзілі і прымушалі падпісаць пратакол. Яго білі — ён не падпісваў. Але яго білі. І потым, — як сведка кажа, не ведаю, не буду сцвярджаць дакладна, — але быццам падпісаў».

14 жніўня Вячаслава адправілі ў Баранавічы. Родныя сабралі яму ў дарогу вялікую перадачу. Яе прынялі, але, як потым даведаліся ад Вячаслава, так і не аддалі: «Мы накупілі столькі ўсяго перад ад'ездам, мы ў краме затарыліся капітальна. Нічога не перадалі».

Вячаслаў схуднеў на 10 кілаграмаў. «У яго быў мікраінсульт у СІЗА. Пастаянна шум і звон у галаве. А яшчэ на спіне вылезла пухліна, на рэбрах. І ён пісаў: "У мяне такое адчуванне, быццам кавалак косткі вылез. І нямеюць пальцы". Было такое, што ён заплюшчыў вочы, расплюшчыў: адно вока нармальна працуе, а другое не можа расплюшчыцца поўнасцю. І страта прытомнасці ў яго была», — кажа Кацярына.


Вячаслаў Рагашчук

Вячаслава, паведамілі родныя, вадзілі ў адміністрацыю Баранавіцкага ІЧУ. «Здымалі на відэа. Паказвалі яму нашы фотаздымкі». Пасля гэтага, як кажа сястра, Вячаслаў перастаў пісаць пра сваё здароўе: «Піша толькі: стан які быў, такі і ёсць». Сваякі мяркуюць, што на Вячаслава націснулі, каб ён не ўзгадваў пра свае траўмы. Медыцынскае абследаванне не праводзяць.

У снежні фігурантаў справы прывозілі на следчыя дзеянні ў пінскі ІЧУ. І мясцовыя ўрачы, з якімі дамовіліся родныя, гатовыя былі абследаваць Вячаслава. Начальнік пінскага ІЧУ Ігар Верыч адмовіў. «Няма канвою», — сказаў ён.

«Славік за ўсе свае 35 гадоў ніколі ў жыцці не хварэў, — зазначыла Кацярына. — Ён зімой у мароз выходзіў, кожны год на Вадохрышча ныраў. А цяпер вось што з ім зрабілі... Гэта з якой сілай трэба біць такога здаровага чалавека, каб давесці да такога стану? Яго збівалі, збівалі, збівалі...»

Следчы камітэт адмовіўся ўзбуджаць крымінальную справу і расследаваць факт збіцця Вячаслава. Хаця ёсць сведкі, якія бачылі гэта. Родныя двойчы звярталіся ў суд, каб змянілі меру стрымання. Таксама адмовы: «У міліцыю пісалі. Мы паўсюль пісалі. І не толькі мы — і людзі калектыўны ліст пісалі, каб Славу выпусцілі пад хатні арышт пад паручыцельства людзей. Нават з Італіі пісалі, з іншых краін».

Не ўсе лісты даходзяць да адрасата. «Я ўжо не памятаю дакладна колькасць, але прыблізна са 150 адпраўленых яму лістоў у яго на руках толькі 65, — зазначыла Кацярына. — На прагулкі не выводзяць. Раней, калі выводзілі, то ў кайданках — з рукамі за спінай».

Вячаслаў напісаў, што сядзіць за тое, што абараніў дзяўчыну з хлопцам. «Міліцыянты, калі ішлі са шчытамі, ставілі падножкі людзям, — патлумачыла Кацярына. — Людзі падалі, і яны зацягвалі іх пад шчыты. Я так зразумела, дзяўчына ўпала, і яе хацелі зацягнуць пад гэтыя шчыты. Але людзі не аддалі дзяўчыну і хлопца, які кінуўся ёй на дапамогу, адабралі іх. Гэта было 9 жніўня, а 10-га Славу затрымалі. Ён напісаў у лісце: "Калі б я ў той момант не дапамог, як паглядзеў бы гэтым маладзёнам у вочы? Я мог дапамагчы, і я дапамог"».

У Вячаслава Рагашчука трое сыноў — 6, 7 і 10 гадоў. Да 9 жніўня ён працаваў таксістам.

## Сяргей Ляжэнка: «Чакаю вясны»

«Спачатку яго на трое сутак затрымалі 27 жніўня, — распавядае жонка Вольга. — Абвінавацілі па ч. 2 арт. 293, трапіў на відэа 9 жніўня. Адпусцілі пад хатні арышт. А праз 20 дзён прыйшлі на працу і затрымалі: маўляў, ён парушыў рэжым. Сяргей быў на другой змене — з трох дня да адзінаццатай вечара. Ён аператар аўтаматычных і паўаўтаматычных матліній. І быццам бы ён мог з'ехаць за мяжу. Нібы ў тэлеграм-канале цікавіўся пра Польшчу.

З сябрамі быў 9 жніўня ў горадзе. Яны прыйшлі да выбарчага ўчастка. Іх усіх адправілі на гарвыканкам. «Ідзіце, там усё даведаецеся». Ну, нашы пайшлі, увесь горад пайшоў туды. І там, кажа, сталі гадзіны дзве, іх мурыжылі. Нічога не гаварылі. А потым прыехала міліцэйскае падмацаванне, іх пачалі ў кола сціскаць. Ніхто ж не думаў, што такое будзе. Думалі, што ўсё будзе цывілізавана. Даведаюцца вынікі галасавання — і разыдуцца. Усё гэтым і скончыцца.

Кажуць, быццам з'ехаць у Польшчу ён хоча. Мне ён сказаў: "А чаму я павінен са сваёй краіны кудысьці бегчы? Чаму? Са сваёй краіны я нікуды не пабягу, я буду з табой разам да канца"».

Пра ўмовы знаходжання мужа ў СІЗА Вольга ведае няшмат: «Зуб выпаў. Кальцый адправіла, вітаміны. Ім там вітамінаў не хапае. Страўнік пастаянна баліць. Я яму таблеткі таксама высылаю. Ён у нас хлопец сціплы, піша: "У мяне ўсё добра". Ён ведае, што мне нервавацца нельга, таму што ў мяне ёсць праблемы са здароўем. І кажа: "Ты толькі не хвалюйся, ты глядзі за сынам". Сыну нашаму Марку 5 гадоў. Сяргею 28 гадоў будзе ў сакавіку.

Я перадачу вазіла нядаўна ў СІЗА. Ён кажа: "Я як адчуваў, што ты недзе побач. Ты не бачыла, што са мной тут адбывалася. Нерваваўся, мяне трэсла. Недарэмна кажуць, што паміж двума людзьмі, якія кахаюць адно аднаго, ёсць нейкая сувязь".

Напісаў: "Чакаю вясны"».

## Пінскі жнівень

Што адбывалася ў Пінску 9 жніўня? На выбарчых участках адпраўлялі людзей у гарвыканкам. Улады самі гэта зрабілі — сабралі людзей, якія спрабавалі пачуць адказ пра вынікі выбараў, каля выканкама. Так апісваюць сітуацыю вечарам 9 жніўня відавочцы.

Аднак яшчэ да піку падзей адбылася першая сутычка. Частцы людзей, якія ішлі да гарвыканкаму, перакрылі шлях начальнікі ГАУС Дзмітрый Каравякоўскі з супрацоўнікамі міліцыі. І збілі.

Ля гарвыканкама быў выстаўлены міліцэйскі заслон. Прыехала падмацаванне з Іванава і Століна. Людзі мірна сталі, многія пасыходзілі да таго часу. Але людзей пачалі акружаць і зціскаць у кола.

«Калі б не спраўкавалі людзей, яны проста развярнуліся

# на судзе трымаць сябе ў руках»

б і сышлі дадому, — лічыць Таццяна. — Ужо асноўная маса сышла. Была дадзена каманда адцясніць іх ад гарвыканкама. Навошта? Незразумела. Ніхто нікому не пагражаў. Але чамусьці пачалі наступ. Пайшлі на людзей. Яны сталі прарывацца. Такая мясарубка была! Колькі людзей прайшло праз іх палкі...»

А каля чацвёртай гадзіны раніцы прыбыў спецназ з Мар'інай Горкі.

10 жніўня некалькі дзясяткаў чалавек сабраліся на пешаходнай зоне. «Хапалі ўсіх без разбору. У розных канцах горада, — распавяла Таццяна. — У нас пастаянна летам у кафэ пад грыбочкамі "Аліварыя" людзі збіраюцца. І ўсіх, хто сядзеў пад гэтымі грыбочкамі, — у аўтазак. Аўтобус адчыняецца — усіх суправаджаюць у машыны. Людзей па-зверску збівалі, хапалі на прыпынках, ля пад'ездаў. Проста на вуліцы хапалі і везлі. Жах! І гэта было 10 і 11 жніўня».

«Затрыманых вельмі шмат было, — расказваюць родныя палітвязняў. — Падвалы, камеры ўсе забітыя былі. Па 20–30 чалавек у камеры напіхалі, як селядцоў у бочкі. А частка людзей знаходзілася ў так званым ціры — гэта падвальнае памяшканне. І яны там трое сутак сядзелі на кукішках, склаўшыся, у такім стане. І хадзіў супрацоўнік, і калі хто варушыўся, то адразу біў. Калі яму надакучвала, ён паднімаў і прымушаў чытаць "Ойча наш", прымушаў пець гімн Беларусі. Хто слоў не ведаў, зноў збівалі. Крычаць прымушалі: "Я люблю Беларусь", "Я люблю Лукашэнку", "Я люблю АМАП". Хто не пагаджаўся ці ціха крычаў — таксама зноў збіццё. Здзекі, катаванні. Не давалі ім адпачыць, паспаць, пастаянна яны іх паднімалі.

Там і цяжарныя былі. І з цяжарных здзекаваліся. Кажуць, па азадку білі палкай. І па твары аплявухамі. Адна дзяўчына прасіла, плакала: "Толькі па жываце не біце, я цяжарная". І ёй далі аплявуху. Добрую аплявуху, нават сіняк быў».

Адна з дзяўчат распавяла Таццяне, як іх затрымалі з сяброўкай.

«Гісторыя з першых вуснаў, — пераказвае Таццяна. — Звычайныя маладыя жанчыны вырашылі пагуляць вечарам па горадзе. Гэта было 9 жніўня. Сядзелі ў скверыку, спакойна. І да іх падляцелі супрацоўнікі АМАПа, збілі. Зацягнулі ў гарвыканкам у фае, у прыбіральні гарвыканкамаўскай паклалі на падлогу. За валасы цягнулі. Там яны атрымалі дубінкамі. І потым іх на аўтазаку ў ІЧУ адправілі. Трое сутак яны сядзелі ў камеры. І пасля атрымалі адміністрацыйны артыкул».

«Потым ля ІЧУ сустракалі тых, хто вярнуўся з гэтага пекла, — узгадвае Таццяна. — Збітых было вельмі шмат. І дзяўчат, і хлопцаў, і маладых, і любога ўзросту. На нашых вачах стаялі хлопцы збітыя. Усе чорныя — спіны, рукі. Яны наогул не былі ў тыя дні на выбарчых падзеях. Яны былі на рыбалцы. І прыехалі вечарам у панядзелак. Спусціліся ў краму, каб купіць прадуктаў. І аказаліся ў аўтазаку».




Пінск. Жнівень 2020-га

## «Нашы ішлі з мірам, а на іх пайшлі з вайной»

Групу расследавання па «пінскай справе» ўзначаліў следчы па асабліва важных справах Андрэй Марціновіч з УСК па Брэсцкай вобласці. Дата суда пакуль не вызначаная, аднак родныя мяркуюць, што працэс неўзабаве распачнецца. Абвінавачанне — «Удзел у масавых беспарадках». Артыкул уключае ў сябе «гвалт з асобы», «пагромы», «падпалы», «знішчэнне маёмасці» ці «ўзброены супраціў прадстаўнікам улады».

«Абвінавачваюць іх у непасрэдным фізічным уздзеянні, якое было ў той момант на процістаянні, як яго называюць "пінскай бойні"», — кажуць сваякі.

«Улады паказалі сітуацыю толькі такую, што з боку народа была агрэсія, — зазначыла Кацярына. — Але насамрэч гэта не так. Было зусім усё па-іншаму. Пачалі браць у кола, а людзі ж натуральна будуць вырывацца і прабівацца. Хто там быў, усе ў адзін голас кажуць, што на самай справе было не ўсё так, як паказалі на міліцэйскіх відэа».

Таццяна кажа: «Вырваныя з кантэксту сюжэты, і паднесена, што з боку пратэстоўцаў была агрэсія — абсалютна беспадстаўна. Усё наадварот. Падставы былі. Сталі браць у кола. І гэта паслужыла штуршком, што людзі сталі абараняцца. Але падаюць гэта як агрэсію. У нас не было пагромаў у горадзе, у нас усе вітрыны цэлыя. Ніхто нічога не захопліваў, ніхто нічога не знішчаў, ніякіх марадзёрстваў, як спрабуюць гэта ўсё паднесці».

Кацярына адзначае: «Калі б усё было спланавана, людзі ішлі б са сваімі палкамі і са сваімі каламі».

«Яны прыйшлі з балонікамі і стужачкамі. Ішлі нашы з мірам, а на іх пайшлі з вайной», — робіць выснову Таццяна.

## Відэаназіранне знішчыла маланка

Скласці па магчымасці поўную карціну падзей маглі б дапамагчы камеры відэаназірання ў горадзе. Але тут выявілася нечаканая акалічнасць.

Кацярына распавяла: «Нам прыслалі адказ са Следчага камітэта: маўляў, была навальніца, у сувязі з гэтым знішчаны ўсе відэазапісы. Я званіла і ў сяброўкі запытвала, у мамы, у знаёмых — ніякай навальніцы не было. Потым залезла ўжо нават у інтэрнэт і паглядзела менавіта гэты дзень. Не было!»



Сяргей Ляжэнка разам з жонкай Вольгай

«Людзі пачалі звяртацца наконт атрыманых траўм. І ў сваіх адпісках супрацоўнікі ГАУС сталі казаць, што такога не можа быць. У горадзе паўсюль поўна камер, каб магчымасць была пагпядзець, што адбывалася ў той перыяд часу. Ну вось яны прыдумалі такую казачку аб тым, што з-за ўмоў надвор'я — у прыватнасці, што маланка была, — выйшлі са строю відэакамеры. І праглядзець іх няма магчымасці. Хаваюць сапраўдную карціну, як справакавалі людзей», — кажа Таццяна.

Кацярына дадае: «І збіццё хаваюць, і зверскае абыходжанне з людзьмі».

Пасля вызвалення затрыманым вярталі тэлефоны, вельмі многія з якіх былі ў непрацоўным стане. «Былі разбітыя. Быццам іх кувалдай ці малатком ударылі, каб яны ўжо аднаўленню не падлягалі. Акрамя апаратыўных патрэбаў, дзеля чаго маглі выняць відэа, там маглі аказацца і здымкі, якія кампраметуюць дзеянні супрацоўнікаў. Вось яны ўзялі і знішчылі доказы», — мяркуе Таццяна.

## «Гэта будзе проста фарс»

«Нашых хлопцаў вылучылі, каб проста зрабіць справаздачу. Як быццам план нейкі выканалі па раскрываемасці. Зрабілі лідарамі, групоўкай: "Згаварыліся і пайшлі на гарвыканкам". Яны зусім не былі знаёмыя адзін з адным! Узроставая катэгорыя — ад 18 да 46 гадоў. Яны нідзе ў звычайным жыцці да гэтага не перасякаліся», — кажуць родныя.

«Слава напісаў: "У нас будзе паказальны суд"», — адзначае Каця.

«Цяпер жа пінскі ГАУС прызнаны найлепшым у Брэсцкай вобласці пасля ўсяго гэтага», — дадае Вольга.

Паводле афіцыйных даных, па справе праходзяць больш за 54 пацярпелыя супрацоўнікі міліцыі. «Усе пацярпелі ад нашых дзесяцярых хлопцаў? І як яны маглі пацярпець у такой колькасці? Былі экіпіраваныя ў ахоўную амуніцыю, абароненыя металічнымі шчытамі. І так пацярпелі 54 чалавекі ад няўзброеных грамадзян? Парадокс проста. Як так?» — задаецца пытаннямі Таццяна.

У сем'яў абвінавачаных апісалі маёмасць. Паводле інфармацыі, якая даходзіць, улады выставілі абвінавачаным суму шкоды для горада на 24 тысячы рублёў. І плюс яшчэ невядома, якая будзе запатрабаваная маральная кампенсацыя пацярпелым. «Але мы думаем, што там непад'ёмная сума будзе, — кажуць сваякі. — Па колькасці пацярпелых — практычна ўвесь асабісты склад ГАУС! Таму мяркуем, што гэта будзе проста фарс. Што яны будуць казаць і як яны будуць прад'яўляць свае кампенсацыі, мы нават уявіць не можам. 54 чалавекі!»

## «Трэба вытрымаць»

Родныя кажуць, што людзі іх падтрымліваюць і спачуваюць. Праваслаўныя самарыцянкі зладзілі малебен у храме Вялікай Пакутніцы Варвары. Яны разам маліліся за здароўе хлопцаў, каб у іх сіл хапіла вытрымаць.

«Людзі, як могуць, праяўляюць спагаду. І гэта вельмі дапамагае нам. У нас сілы з'яўляюцца таксама ад гэтай падтрымкі, мы яе адчуваем. І мы стараемся сваю энергію нашым хлопцам праз лісты перадаць, праз адвакатаў. Усе яны цудоўна ведаюць, што мы іх падтрымліваем. Мы ніколі іх не кінем, яны для нас самыя лепшыя. І гэта таксама дае ім надзею, упэўненасць маральную».

«Алегу мы ў кожным лісце пішам: "Мы з табой", — распавядае Таццяна. — "Ты моцны, усё, што даецца, — гэта выпрабаванне, павінен вытрымаць. І вытрымаеш. І мы заўсёды з табой побач". Усе пішуць: і бабуля, і дзядуля, і я, і тата, і мама. І ён гэта ведае, ён вельмі ўдзячны нам за гэта. Ён піша заўсёды ў лістах: "Я вас усіх люблю. Дзякуй вам вялікі"».

«Мы, канечне, сыходзячы з усяго, што адбываецца ў краіне: і як здзяйсняюцца судовыя працэсы, і якім чынам выносяцца рашэнні, — ілюзій не маем, — дадае Таццяна. — Таму што ўсе мы цудоўна разумеем, што рашэнні будуць прымацца на больш высокім узроўні ў лёсе і па тэрмінах нашых родных.

Спадзявацца, што ў дадзеных умовах жорсткіх рэпрэсій іх адпусцяць — не, у нас надзеі на гэта няма. Мы толькі жадаем сабе сіл вытрымаць, перажыць гэты перыяд. І нашым хлопцам таксама. Каб у іх хапіла сіл, здароўя. Ну а далей — будзем бачыць, як потым будзе ўсё. Спадзяёмся, што штосьці зменіцца — і яны не будуць пакутаваць так доўга ўвесь гэты перыяд, не выпадзе ім лёс такі цяжкі для выпрабаванняў і будзе магчымасць яго змяніць.

Алег у лісце да бацькі напісаў: "Вельмі вас прашу на судзе трымаць сябе ў руках. Усе эмоцыі пакінуць дома. І прыйсці туды ўжо без эмоцый". І напісаў: "Спадзяюся, ты вытрымаеш". І вось трэба вытрымаць.

Нягледзячы на рэпрэсіі, настрой у людзей не змяніўся. Мы ж у калектывах працуем, размаўляем з людзьмі, з суседзямі. Ва ўсіх аднолькавы настрой. Усе хочуць перамен. Таму што як гэта забыць? Як?! Як можна перагарнуць старонку?»

**Фота прадстаўленыя роднымі герояў артыкула.**

5 сакавіка 2021 | № 9 (717) Новы Час

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТУРКМЕНІСТАН. Прэзідэнт прыдумляе імёны

У Туркменістане 25 траўня штогод святкуецца дзень Ашхабада. А ў гэтым годзе свята будзе яшчэ большым — сталіцу рэспублікі напаткае круглая дата, 140 гадоў. Не застаўся абыякавым да будучага святкавання і мясцовы гарант. Кіраўнік Туркменістана Гурбангулы Бердымухамедаў склаў і агучыў спіс імёнаў, якімі трэба называць дзяцей, якія народзяцца 25 траўня. Туркменскі лідар падкрэсліў, што будзе сімвалічна, калі хлопчыку, які нарадзіўся 25 траўня, даць імя Пайтагт (сталіца) або Ашхабад, а дзяўчынцы — Мерджэн (Жамчужына) або Мая. «Гэтыя імёны будуць своеасаблівым знакам прызнання любові да сталіцы, павагі да яе гісторыі, гонару за шчаслівае жыццё народа», — падкрэсліў Бердымухамедаў. Ён таксама даў шэрагу чыноўнікаў каштоўныя інструкцыі адносна таго, якія падарункі варта ўручаць нованароджаным.

**Паводле туркменскай прэсы**

### ІРАН. Дабраліся да мульцікаў

Вярхоўны духоўны лідар Ірана пастанавіў, што ўсе жаночыя персанажы анімацыйных фільмаў павінны насіць хіджаб. Згодна з фетвай аяталы Алі Хаменеі, у жанчын у мультфільмах павінны быць прыкрытыя грудзі і хіджаб на галаве. Заняцца мульцікамі аятала вырашыў пасля таго, як нехта задаў яму ў інтэрнэце пытанне наконт адпаведнасці анімацыйных фільмаў канонам рэлігіі. Рэагуючы на сігнал, духоўны лідар вырашыў урэгуляваць сітуацыю ў гэтай галіне. «Хоць нашэнне хіджабаў у такой гіпатэтычнай сітуацыі не патрабуецца само па сабе, захаванне хіджабаў у анімацыі патрэбнае з-за магчымых негатыўных наступстваў адсутнасці хіджабу», — растлумачыў ён сваю інструкцыю аніматарам.

Тыя стваральнікі мультфільмаў, якія праігнаруюць фетву, трапляюць пад спецыяльны артыкул іранскага крымінальнага кодэксу, і могуць адправіцца на некалькі гадоў у турму. Зрэшты, некаторыя аспекты новага закона не вельмі зразумелыя. Так, часцяком героямі мультфільмаў з'яўляюцца самкі-казуркі, напрыклад пчолы. Пакуль незразумела, ці давядзецца ім таксама маляваць хіджаб.

**Паводле іранскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. У кіраўніцтве толькі жанчыны

Сёмы з'езд Левай партыі Германіі, які прайшоў 26 і 27 лютага, безумоўна, увойдзе ў гісторыю. 536 дэлегатаў з'езда абралі новае партыйнае кіраўніцтва, у тым ліку двух сустаршыняў. Імі сталі Жанін Віслер з заходнегерманскай зямлі Гесэн і Сюзана Хеніг-Вельс з усходнегерманскай зямлі Цюрынгія. Такім чынам, упершыню ў гісторыі дзве жанчыны ўзначалілі партыйную структуру.

Няма сумневаў, што ідэю наконт дзвюх сустаршынь-жанчын падхопяць іншыя еўрапейскія партыі. Таксама не выключана, што замест двух сустаршынь партыямі будуць кіраваць тры ці чатыры. Ужо гучаць ідэі зрабіць у кіраўніцтве партый абавязковую квоту для інвалідаў, сексуальных меншасцяў або імігрантаў. Зрэшты, у выпадку з Левымі, магчыма, ніякай праявы радыкальнага фемінізму не было. Гэтай партыі вельмі важна перастаць быць партыяй, за якую галасуюць толькі ў землях былой ГДР. Таму кіраўніцтва склалася па рэгіянальным прынцыпе: адзін прадстаўнік Усходу, адзін — з Захаду.

**Паводле нямецкай прэсы**

### РАСІЯ. Чалавек-павук замест Пуціна

Кіраўніцтва кінафестывалю «Героі вялікай краіны» вырашыла высветліць у прыкладна шасці тысяч расійскіх школьнікаў 12–16 гадоў з 65 рэгіёнаў, каго яны лічаць героямі. І атрымала шакавальны вынік. Пуціна героем назвалі толькі 2,6% апытаных. Ён адстаў ад Юрыя Гагарына (3%) і ваенных



(8,1%). У першую тройку лідараў увайшлі абстрактныя «сваякі і сябры» (26,2%). Аднак значна больш непрыемны для Пуціна пройгрыш героям амерыканскіх коміксаў. Персанажаў коміксаў, у тым ліку Жалезнага Чалавека і Чалавека-павука, героямі лічаць 10,1% апытаных дзяцей. Пракрамлёўскія блогеры ўжо абвясцілі вынікі апытання інтрыгамі Захаду і наступствамі дыстанцыйнага навучання.

**Паводле расійскай прэсы**

# Калі бунтуе казарма

Алег НОВІКАЎ

**На момант напісання артыкула яшчэ незразумела, ці зможа ўтрымаць уладу прэм'ер Арменіі Нікол Пашынян, адстаўкі якога патрабуе генералітэт краіны. Затое навіны з Ерэвана — выдатная нагода ўспомніць, калі і як яшчэ на тэрыторыі экс-СССР людзі ў пагонах мянялі рэжымы.**



Фота www.regnum.ru

Паняццё «ваенны пераварот» выклікае асацыяцыі, хутчэй, з Афрыкай або Лацінскай Амерыкай, ці хаця б з выступам дзекабрыстаў. На самай справе, гэта тэма даўно ўжо стала звыклай для многіх постсавецкіх рэспублік.

Лідарства па колькасці спробаў пераваротаў адназначна трымае Азербайджан. Спецыялісты налічылі аж пяць выпадкаў, калі мясцовыя вайскоўцы ўмешваліся ў палітыку. А два разы даводзілі справу да змены рэжыму. Першы пераварот на беразе Каспію адбыўся 14–15 траўня 1992 года, калі вайскоўцы — прыхільнікі нацыяналістычнага Народнага Фронту, захапілі ўрадавы квартал і абвясцілі пра звяржэнне прэзідэнта рэспублікі Аяза Муталібава — прадстаўніка посткамуністычных элітаў. Муталібаў асабліва не супраціўляўся — і пакінуў краіну, якую ўзначальваў народнафронтавец Абульфаз Эльчыбей.

А вось калегі Муталібава засталіся ў краіне, і праз год узнялі свой ваенны мяцеж. Яго ўзначальваў былы палкоўнік Сурэт Гусейнаў. Кідок яго танкавай брыгады з Гянджы на Баку заспеў улады знянацку. Эльчыбею заставалася толькі паўтарыць лёс папярэдніка — і сысці ў адстаўку. Вакантнае крэсла заняў Гейдар Аліеў, які з панскага пляча прызначыў Гусейнава прэм'ерам. Пасля гэтага як мінімум яшчэ тройчы ваенныя падымалі паўстанні або рыхтавалі выступы. Самая буйная акцыя адбылася ў кастрычніку 1994-га, калі мяцежнікі захапілі ў закладнікі генеральнага пракурора краіны.

Суседняя Грузія ведала тры выпадкі бунта жаўнераў, але ўсе яны былі безвыніковымі. У кастрычніку 1998-га камандзір танкавага падраздзялення Акакій Эліава ўзняў узброены мяцеж і накіраваў танкі на Тбілісі, патрабуючы адстаўкі прэзідэнта Шэварнадзэ. Калона была спыненая войскамі ў Кутаісі, а ўдзельнікі бунту пасля былі амніставаныя. У траўні 2001-га батальён Нацыянальнай гвардыі выйшаў з падпарадкавання камандавання. 400 вайскоўцаў пакінулі частку і захапілі ваенную базу ў 25 кіламетрах ад Тбілісі. Але ў выніку Шэварнадзэ пераканаў вайскоўцаў вярнуцца да месца дыслакацыі.

Пасля сыходу Шэварнадзэ мець справу з ваеннымі бунтамі давялося ўжо Міхаілу Саакашвілі. У траўні 2009-га Мінабароны абвясціла пра арганізацыю змовы ў шэрагу часцей Узброеных Сіл краіны. Саакашвілі расцаніў гэта як інтрыгі расійскай выведкі. Але, хутчэй, гэта была прыкмета стомленасці грузін ад Міхо, які неўзабаве прайграў выбары і адправіўся ў эміграцыю.

Таджыкістан — радзіма дзіўнага палкоўніка Махмуда Худайбердыева, які тройчы (!) арганізоўваў ваенныя мецяжы, а адзін раз меў рэальны шанец узяць сталіцу Душанбэ. Цікава, што Худайбердыеў спрабаваў прапанаваць краіне трэці шлях

**Прагнозаў наконт развіцця сітуацыі ў Арменіі вельмі шмат, але большасць экспертаў схіляецца да таго, што Пашынян доўгі час пры ўладзе не застанецца. Пазачарговыя выбары яго партыі не выйграць**

паміж постсавецкай дыктатурай і ісламістамі. Таксама цікава, што ён застаецца культавай фігурай сярод мясцовай моладзі. Дасюль некаторыя лічаць, што ён не загінуў у 2001-м (так інфармавалі некаторыя СМІ), а хаваецца ў краіне, каб калісьці ўзняць свой чарговы, гэтым разам пасляховы мяцеж.

Што тычыцца актуальных падзей у Арменіі, то іх трыгерам стала восеньская параза ў Нагорным Карабаху. Канфуз на фронце справакаваў выбух незадаволенасці на адрас прэм'ера Нікола Пашыняна ў вялікім сегменце грамадства. Апазіцыя ледзь не адразу пачала патрабаваць, каб уладу ў краіне ўзяў тэхнічны часовы ўрад. Пашынян неяк блакаваў фронду, аднак на мінулым тыдні на бок апазіцыянераў фактычна стаў Генштаб. Гэта дало падставу прэм'еру казаць пра спробу ваеннага перавароту і патрабаваць звальнення кіраўніка генштаба Оніка Гаспарана. Аднак прэзідэнт краіны Армен Саркісян адмовіўся візаваць хадайніцтва Пашыняна, што стала маркёрам глыбокага палітычнага крызісу.

Прагнозаў наконт развіцця сітуацыі ў Арменіі вельмі шмат, але большасць экспертаў схіляецца да таго, што Пашынян доўгі час пры ўладзе не застанецца. Пазачарговыя выбары — такой можа быць цана кампрамісу з арміяй і апанентамі, — яго партыі не выйграць. Такім чынам, Арменія можа стаць чарговай краінай экс-СССР, дзе вайскоўцы забяспечылі змену рэжыму. Час пакажа, ці будзе гэта прыкладам для пераймання.

Нарэшце, трэба адзначыць, што чуткі пра ваенныя перавароты — абавязковы атрыбут інфармацыйнай стужкі ў краінах, дзе назіраецца палітычная дэстабілізацыя. Напрыклад, спекуляцыі пра мяцеж вайскоўцаў можна было пачуць ва Украіне напярэдадні 25 жніўня 2020 года — дня незалежнасці Украіны. Насуперак традыцыі, ваенны парад гэтым разам адмянілі з-за пандэміі. Аднак удзельнікі АТО, многія з якіх маюць зброю, заявілі, што не будуць выконваць распараджэнне Зяленскага і пройдуць па Хрышчаціку. Такі ход падзей дазволіў кіеўскаму эксперту Аляксею Быстракову заявіць: «Прысутнасць крытычнай колькасці вайскоўцаў у цэнтры Кіева на парадзе з нагоды Дня незалежнасці дасць ім магчымасць здзейсніць ваенны пераварот». Праўда, прагноз не рэалізаваўся.

Гучаць падобныя плёткі і датычна нашай краіны. Уладзімір Жырыноўскі яшчэ 4 жніўня мінулага года спрагназаваў настолькі рэзкае абвастрэнне становішча ў Беларусі ў выпадку «перамогі» Лукашэнкі, што не выключыў нават умяшання вайскоўцаў. Па словах расійскага палітыка, «хто-небудзь з воінскіх частак або з паліцыі можа адмовіцца падпарадкоўвацца Лукашэнку».

# За журналіста адкажаце!

Алег НОВІКАЎ

**Навошта адміністрацыя Байдэна публічна назвала імя замоўніка забойства журналіста арабскага Джамаля Хашогі?**

Ад забароны стасункаў з прадстаўнікамі процілеглага полу, калі толькі гэтыя людзі не з'яўляюцца блізкімі сваякамі, і аж да патрабавання для кожнай жанчыны абавязкова мець апекуна мужчынскага полу, без згоды якога яна не мае права нават пакідаць дом. Гэта толькі некаторыя з нормаў законаў Саудаўскай Аравіі, за парушэнне якіх можна атрымаць удары бізуном (350 удараў, дарэчы, могуць выклікаць смерць) або нават адсячэнне галавы. Не кажучы ўжо пра тое, што Саудаўская Аравія — абсалютная манархія, дзе выбараў або падзелу ўлады не існуе нават фармальна.

Не дзіўна, што колькі існавалі міжнародныя арганізацыі па абароне правоў чалавека, столькі яны асуджалі згаданыя рэаліі Саудаўскай Аравіі ды заклікалі Захад ціснуць на Эр-Рыяд.

Заходнія дэмакратыі неяк млява рэагавалі на гэтыя заклікі. У свой час нават запілюшчылі вочы на сенсацыйную інфармацыю, што некаторыя дыпламаты-саудыты былі ў курсе планаў Бен Ладэна атакаваць 11 верасня 2001 года вежы-блізняты. А некаторыя з тых тэрарыстаў, як высветлілася, увогуле мелі добрыя фінансавыя сувязі з прадстаўнікамі каралеўскай сям'і Саудаўскай Аравіі.

Такі асцярожны падыход тлумачылі тым, што Саудаўская Аравія — традыцыйна галоўны фарпост ЗША ў ісламскім свеце. У дадатак саудыты ахвотна набывалі зброю практычна ва ўсіх краінах Еўропы. Карацей, дзейнічаў негалосны прынцып: адносіны з Эр-Рыядам нельга псаваць незалежна ад таго, якія б жудасныя факты і дэталі ні ўсплывалі.

І вось цяпер, як кажуць, нешта ў лесе здохла. Новая адміністрацыя ЗША вырашыла даць ход справе скандальнага забойства 59-гадовага арабскага журналіста Джамаля Хашогі. 2 кастрычніка 2018 года ён увайшоў у консульства сваёй краіны ў Стамбуле. Унутры будынка журналіста чакала спецыяльна дасланая з Эр-Рыяда група асобаў, якія забілі яго на месцы.

Забойцы не ведалі, што будынак знаходзіцца пад наглядам турэцкіх спецслужбаў. Не без іх дапамогі стала вядома, што часткі цела забітага журналіста знаходзяцца ў калодзежы ў садзе рэзідэнцыі консула ў 500 метрах ад самога консульства. Згодна з паведамленнямі крыніц, цела Хашогі было рассечанае на некалькі фрагментаў.

Адразу ўзнікла версія, што Хашогі «замовілі» праз яго



Фота www.dw.com

грамадскую пазіцыю. У 2011 годзе, натхнёны падзеямі арабскай вясны, журналіст адкрыта выступіў супраць рэпрэсіўнага і аўтарытарнага рэжыму ў Саудаўскай Аравіі. У адказ яму забаранілі публікавацца і фактычна прымусілі эміграваць. Новым домам для яго сталі Злучаныя Штаты, дзе журналіст публікаваў у Washington Post аўтарскія калонкі і артыкулы.

Так ці інакш, Эр-Рыяд быў вымушаны рэагаваць на канфуз у Стамбуле. Смерць журналіста прапанавалі разглядаць як вынік бойкі ў консульстве, удзельнікі якой, маўляў, ужо затрыманыя. У верасні мінулага года суд у Саудаўскай Аравіі па справе забітага журналіста асудзіў да 20 гадоў турэмнага зняволення пяць чалавек. Яшчэ двое атрымалі па сем гадоў турмы. Шмат хто назваў прысуд фарсам, але па факце справу адправілі ў архіў.

І вось нечаканы паварот. У мінулую пятніцу Нацыянальная

**Прынцыповы падыход Злучаных Штатаў да тэмы абароны правоў і жыцця журналістаў выклікаў эйфарыю сярод прафесійных арганізацый. Аднак некаторыя заклікаюць стрымліваць эмоцыі**

разведка ЗША апублікавала даклад, у якім сцвярджаецца, што саудаўскі наследны прынц, ён жа — міністр абароны каралеўства Мухамед бін Салман персанальна ўхваліў пакаранне смерцю аглядальніка The Washington Post. Для гэтага ў яго быў салідны матыў. Гледзячы па ўсім, ён меў асабісты зуб на Хашогі, які ў сваіх артыкулах падрываў імідж бін Салмана ў вачах заходняй аўдыторыі.

Справа ў тым, што прынц намагаўся выстаўляць сябе ў вобразе рэфарматара, сучаснага палітыка з новым бачаннем будучыні сваёй краіны. Сапраўды, пры ім адбыліся пэўныя змены. Напрыклад, у 2017-м, пасля 30 гадоў забароны, у краіне зноў пачалі працаваць кінатэатры. У сваю чаргу, Хашогі ў тэкстах маляваў наследнага прынца як арганізатара праследу дысідэнтаў і іншадумства. Калі Хашогі прыехаў у Стамбул і накіраваўся ў саудыцкае консульства, у наследнага прынца з'явілася магчымасць вырашыць старую «праблему».

Пакуль пакараць забойцаў амерыканцы вырашылі персанальнымі санкцыямі. Усяго пад іх трапяць 27 падданых Саудаўскай Аравіі, у тым ліку бліжэйшыя памочнікі прынца. Магчыма, гэта толькі пачатак. Прэзідэнт Джо Байдэн увогуле паабяцаў апублікаваць новую стратэгію адносін з каралеўствам.

Такога кшталту прынцыповы падыход Злучаных Штатаў да тэмы абароны правоў і жыцця журналістаў выклікаў эйфарыю сярод прафесійных арганізацый. Аднак некаторыя заклікаюць стрымліваць эмоцыі. У панядзелак разведка ЗША без якіх-небудзь тлумачэнняў замяніла іншай версіяй апублікаваны раней даклад пра забойства Хашогі, выдаліўшы імёны трох чалавек, якія першапачаткова лічыліся датычнымі да справы.

Адразу пачалі казаць, што пра забойства Хашогі ўзгадалі з-за спрэчак па дынастычных пытаннях. Вашынгтон па нейкіх прычынах жадае вывесці з палітычнай прасторы наследнага прынца. З іншага боку, абвінавачанні на адрас прынца (дарэчы, любімага сына караля Саудаўскай Аравіі) і заявы пра новы курс ЗША адносна Саудаўскай Аравіі зробленыя на такім высокім афіцыйным узроўні, што проста пра ўсё забыцца і вярнуцца да былога статус-кво, падаецца, ужо не атрымаецца.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Кахір Расулзада



Прэм'ер Таджыкістана і яго міністры вырашылі ўхваліць чарговыя змены ў таджыкскі правапіс. Нагадаем, што да канца 1920-х гадоў таджыкі карысталіся арабскім алфавітам. У 1930 годзе Савецкі Таджыкістан перайшоў на лацінку, а пасля 1940 года быў створаны таджыкскі алфавіт на аснове кірыліцы, які пасля абвяшчэння незалежнасці рэфармавалі чатыры разы.

Гэтым разам вырашана вярнуць у таджыкскую мову літары «ц», «ш,» «ь», «ы». Гэтыя літары зніклі з таджыкскай мовы ў 1998 годзе, паколькі лічыліся «рускімі». Як адзначаюць спецыялісты, вяртанне рускіх літар часткова тлумачыцца міграцыяй у Расію, дзе працуе больш за мільён таджыкаў. Дзеці мігрантаў вучацца ў рускіх школах і актыўна выкарыстоўваюць у тым ліку тыя самыя «ц», «ш», «ь», «ы». Пасля вяртання на радзіму ў іх узнікаюць праблемы пры вывучэнні і выкарыстанні таджыкскай мовы.

Нягледзячы на тое, што Таджыкістан — аўтарытарная краіна, нацыянальная частка інтэлігенцыі дазволіла сабе публічную крытыку рэформы. Тым часам настаўнікі таджыкскай мовы школ краіны кажуць, што не толькі навучэнцы, але і яны самі заблыталіся ў зменах у правапісе. Да таго ж, многія дзеці дома размаўляюць на мясцовым дыялекце. Супрацоўнікі СМІ ўвогуле сцвярджаюць: пастаянныя змены ў правапісе прывялі да таго, што многія таджыкі настойваюць на публікацыі матэрыялаў на больш зразумелай ім рускай мове.

### Аўн Сан Су Чжы



Лаўрэатцы Нобелеўскай прэміі міра, урад якой быў адхілены ад улады шляхам ваеннага перавароту ў лютым, і якая была арыштаваная падчас путчу, выставілі афіцыйныя абвінавачанні. Аўн Сан Су Чжы, кіраўніцы Нацыянальнай лігі за дэмакратыю М'янмы (НДЛ), інкрымінуюць заклікі да беспарадкаў у час пандэміі. За гэта злачынства можа пагражаць рэальны турэмны тэрмін або, прынамсі, забарона на ўдзел у парламенцкіх выбарах, якія ваенная хунта абяцае правесці на працягу года.

Цікава, што першапачаткова жанчыну абвінавачвалі ў фальсіфікацыі выбараў у мінулым годзе, па выніках якіх НДЛ прыйшла да ўлады. У любым выпадку, абвінавачанне супраць 75-гадовай Аўн Сан Су Чжы кажа пра рашучасць ваенных задушыць рух супраць ваеннай дыктатуры, які ахапіў краіну адразу пасля перавароту. Цяпер пратэсты набываюць усё большы размах — нават нягледзячы на тое, што паліцыя і армія разганяюць дэманстрацыі не толькі з дапамогай слезацечнага газу і гранатаў, але таксама ўжываюць зброю. Паводле даных ААН, апошнім часам на вуліцах М'янмы былі забітыя 18 чалавек. Тым не менш, рух грамадзянскага непадпарадкавання да гэтага часу прытрымліваецца негвалтоўнага прынцыпу.

На думку экспертаў, па ходзе набліжэння да выбараў не выключана поўная забарона партыі Аўн Сан Су Чжы.

### Майкл Пампеа



Былы дзяржаўны сакратар ЗША ў адміністрацыі Дональда Трампа, гледзячы па ўсім, можа стаць кандыдатам у прэзідэнты на выбарах 2024 года ад трампаўскай фракцыі ў Рэспубліканскай партыі.

Такія думкі паўсталі ў экспертаў па выніках канферэнцыі рэспубліканцаў у Арланда. Інтарэс да імпрэзы быў вельмі вялікі, таму што ў ёй асабіста ўдзельнічаў Трамп. Яго прамова на канферэнцыі стала першым выступам з 20 студзеня, калі ён афіцыйна перастаў быць прэзідэнтам. У сваім выступе Трамп фактычна абвясціў сябе нефармальным лідарам рэспубліканцаў. Ён таксама паведаміў, што не збіраецца ствараць уласны палітычны праект. «Рэспубліканская партыя адзіная. У ёй ёсць толькі адзін раскол, паміж палітыканамі вашынгтонскага істэблішменту і ўсімі астатнімі ў краіне», — сказаў Трамп.

Былы гарант, зразумела, назваў Байдэна «горшым прэзідэнтам у гісторыі ЗША» і выказаў упэўненасць, што дэмакраты прайграюць прэзідэнцкія выбары, якія адбудуцца праз чатыры гады. «Я магу рашыцца пабіць іх у трэці раз», — сказаў Трамп, намякнуўшы такім чынам, што ён не адмаўляецца ад сваіх сцвярджэнняў пра фальсіфікацыю прэзідэнцкіх выбараў 2020 года.

Аднак шмат хто за акіянам сумняваецца ў тым, што здароўе дазволіць Трампу праз чатыры гады ўдзельнічаць у кампаніі. Таму фаварытам усё ж лічыцца Майкл Пампеа, якога Трамп прэзентаваў як свайго галоўнага партнёра. Яшчэ адзін магчымы кандыдат ад трампістаў — малады губернатар Фларыды Рон Дэсанціс, які вядомы тым, што адмовіўся ад увядзення ў сваім штаце жорсткага рэжыму каранцыну.

# Грынявіцкі, або проста Коцік



Ігнат Грынявіцкі

Васіль ГЕРАСІМЧЫК

**Галаву Ігната Грынявіцкага змясцілі ў слоік са спіртам і выставілі ў холе пецярбургскай камендатуры паліцыі. Перад ім павінны былі праходзіць усе арыштаваныя, якіх вялі на допыт.**

Сто сорак гадоў таму, 1 (13) сакавіка 1881 года ў 15.35 у Зімнім палацы ў Пецярбургу ад атрыманага ранення памёр расійскі імператар Аляксандр II. А праз сем гадзін памёр беларус Ігнат Грынявіцкі, які кінуў бомбу пад ногі цару.

У сваім запавеце, напісаным за некалькі дзён да смерці, Грынявіцкі пазначыў: «Гісторыя паказвае, што раскошнае дрэва волі патрабуе чалавечых ахвяраў».

Сябры запомнілі Грынявіцкага як невысокага шатэна з кучаравай галавой, высокім ілбом, невялікай расліннасцю на лагодным шырокім твары. Ігнат заўважна гаркавіў літару «л», вызначаўся сціпласцю, быў не надта гаварлівы, але схільны да гумару.

Грынявіцкі нарадзіўся ў 1856 годзе ў збяднелай шляхецкай сям'і ў фальварку Басін Свіслацкай воласці Бабруйскага ўезда Мінскай губерні. Паспяхова скончыў Беластоцкую рэальную гімназію, дзе за рахманы нораў яго называлі проста Коцік — пазней гэта зрабілася падпольнай мянушкай Грынявіцкага (а таксама мянушкі Ельнікаў і Міхаіл Іванавіч). У 1875 годзе ён паступіў у Пецярбургскі тэхналагічны інстытут.

Студэнцкая моладзь Расійскай імперыі ў гэты час жыла народніцкімі ідэямі руху «хаджэння ў народ» і верай у хуткае наступленне лепшага ладу. Грынявіцкі таксама далучыўся да гэтага руху: вёў прапаганду сярод працоўных, збіраў сродкі для дапамогі арыштаваным таварышам, выпрабляў фальшывыя дакументы, удзельнічаў у працы расійска-польскіх падпольных гурткоў.

Народніцтва распачыналася як мірная ініцыятыва моладзі, да якой уладамі прымяняліся жорсткія рэпрэсіі. Толькі ў 1874 годзе было арыштавана 8000 чалавек па абвінавачванні ў рэвалюцыйнай прапагандзе. Сімвалам разгорнутага Расійскай імперыяй паліцэйскага тэрору стаў «працэс 193-х» у 1877–1878 гадах. Да таго часу многія арыштаваныя знаходзіліся за кратамі ўжо 4 гады. 43 чалавекі памерлі яшчэ да пачатку суда, 12 скончылі жыццё самагубствам у турме, 38 з'ехалі з глузду з-за доўгага турэмнага адзіноцтва. Нягледзячы на тое, што суд апраўдаў 80 іншых удзельнікаў «працэсу 193-х», паводле асабістага загаду імператара Аляксандра II, яны былі адпраўленыя ў ссылку.

У адказ на арэну грамадзянскага супраціву выйшлі арганізацыі, якія не спыняліся перад тэрорам у змаганні з самадзяржаўем. 28 студзеня 1878 года Вера Засуліч страляла ў пецярбургскага генерал-губернатара Трэпава, а 4 жніўня 1878 года Сяргей Сцяпняк-Краўчынскі закалоў кінжалам шэфа жандараў Мязенцава.



Забойства цара

У чэрвені 1879 года рэвалюцыянеры вынеслі смяротны прысуд «цару-вешальніку» Аляксандру II. Здарылася гэта менавіта на хвалі паліцэйскага тэрору ў 1879 годзе.

Ігнат Грынявіцкі далучыўся да арганізацыі «Народная воля» і стаў адным з заснавальнікаў яе беларускай фракцыі, праграма якой пазней была надрукавана ў часопісе «Гоман» (1884), дзе было абвешчана права беларускага народа «кіраваць сабой» і «распараджацца сваім лёсам». Ігнат увайшоў таксама ў рэдакцыю падпольнай «Рабочай газеты».



Расійскі імператар Аляксандр II

У адносінах да прадстаўнікоў польскіх арганізацый, якія спрабавалі завербаваць Грынявіцкага ў свае шэрагі, Ігнат адказваў, што ён літвін, а не паляк. Аб этнічнасці Грынявіцкага расіянін Л.А. Ціхаміраў падчас эміграцыі ў 1880-я гады запісаў наступнае: «Поляки упорно называли его Грюеневецкий и причисляли к своим. Он сам, однако, называл себя литвином, а не поляком; по-русски говорил прекрасно, как и по-польски, и был вполне русский народник. Официально его, конечно, нужно считать поляком, потому что по вероисповеданию он был католик. Тем не менее Гриневицкий был поляк сильно "помоскаленный", и большая часть его студенческих друзей, с которыми он мечтал о поселениях "в народе", были кровные русские или "помоскаленные" поляки».

На папрокі палякаў Грынявіцкі адказваў: «Калі вы ў лес адправіцеся, я буду тады з вамі. А цяпер, калі вы нічога не робіце, я буду працаваць на справу вызвалення».

Грынявіцкі быў шчырым каталіком, аднак лічыў, што самаўладдзе ў Расійскай імперыі — ліха, у змаганні з якім нельга спыняцца ні перад чым, нават ахвяруючы ўласным жыццём.

**Народніцтва распачыналася як мірная ініцыятыва моладзі, да якой уладамі прымяняліся жорсткія рэпрэсіі. Толькі ў 1874 годзе было арыштавана 8000 чалавек па абвінавачванні ў прапагандзе рэвалюцыі**

Восенню 1880-га ён увайшоў у спецыяльны атрад па падрыхтоўцы замаху на Аляксандра II, які ўзначальвала Соф'я Пяроўская. Іх задачай было штодзённае назіранне за перамяшчэннямі цара, вывучэнне маршрутаў яго руху.

У гэты час чарговая хваля рэпрэсій абрынулася на Пецярбург і Маскву, і ў студзені-лютым многія прадстаўнікі Народнай волі былі арыштаваныя, сярод якіх 27 лютага аказаўся і адзін з кіраўнікоў арганізацыі — Андрэй Жэлябаў. Аднак група Соф'і Пяроўскай заставалася на волі і праводзіла апошнія падрыхтоўчыя мерапрыемствы перад рэалізацыяй плана забойства цара.

Да ранку 1-га сакавіка праца была завершана: бомбы падрыхтаваныя, ролі размеркаваныя.

Згодна плану, у забойстве цара бралі ўдзел 4 чалавекі: Ігнат Грынявіцкі, Мікалай Рысакоў, Цімафей Міхайлаў і Іван Емельянаў, якія ў 8 гадзін, напярэдадні наведвання Аляксандрам II манежу, былі на сваіх пазіцыях. Аднак абставіны скалаліся так, што цар паехаў іншай дарогай. Пяроўская здолела арганізаваць людзей і загадала тым змяніць пазіцыі.

Царскі экіпаж, узмоцнены канвоем, рухаўся да Екацярынінскага канала, калі бомбу ў яго кінуў Мікалай Рысакоў. У выніку быў забіты адзін казак аховы, а самога Рысакова схапілі. Аляксандр II вылез з экіпажа і стаў назіраць за збіццём казакамі схопленага рэвалюцыянера. У гэты час да цара наблізіўся Ігнат Грынявіцкі, які застаў прысутных знянацку і кінуў Аляксандру II бомбу пад самыя ногі.

Імператар быў смяротна паранены і хутка памёр. Грынявіцкі памёраў у шпіталі, увесь у крыві і ранах пасля выбуху. На ўсе спробы даведацца яго імя, Ігнат не адказваў, і толькі незадоўга да смерці адрывіста сказаў: «Не ведаю». Ён так і не выдаў уласнага прозвішча, каб затрымаць паліцыю і даць час сваім сябрам збегчы.

За некалькі дзён да замаху на Аляксандра II Ігнат Грынявіцкі пакінуў свой запавет:

> <...> Александр II должен умереть. Дни его сочтены.
>
> Мне или другому кому придется нанести страшный последний удар, который гулко раздастся по всей России и эхом откликнется в отдаленнейших уголках ее, — это покажет недалекое будущее.
>
> Он умрет, а вместе с ним умрем и мы, его враги, его убийцы.
>
> Это необходимо для дела свободы, так как тем самым значительно пошатнется то, что хитрые люди зовут правлением — монархическим, неограниченным, а мы — деспотизмом...
>
> Что будет дальше?
>
> Много ли еще жертв потребует наша несчастная, но дорогая родина от своих сынов для своего освобождения? Я боюсь... меня, обреченного, стоящего одной ногой в могиле, пугает мысль, что впереди много еще дорогих жертв унесет борьба, а еще больше последняя смертельная схватка с деспотизмом, которая, я убежден в том, не особенно далека и которая зальет кровью поля и нивы нашей родины, так как — увы! — история показывает, что роскошное дерево свободы требует человеческих жертв.
>
> Мне не придется участвовать в последней борьбе. Судьба обрекла меня на раннюю гибель, и я не увижу победы, не буду жить ни одного дня, ни часа в светлое время торжества, но считаю, что своей смертью сделаю все, что должен был сделать, и большего от меня никто, никто на свете требовать не может.
>
> Дело революционной партии — зажечь скопившийся уже горючий материал, бросить искру в порох и затем принять все меры к тому, чтобы возникшее движение кончилось победой, а не повальным избиением лучших людей страны.
>
> февр. 1881 г. Игнатий Гриневицкий.

15 траўня пяцёра ўдзельнікаў забойства Аляксандра II былі павешаныя на запоўненай натоўпам Сямёнаўскай плошчы ў Пецярбургу: Андрэй Жэлябаў, Соф'я Пяроўская, Мікалай Кібальчыц, Мікалай Рысакоў і Цімафей Міхайлаў, якога вешалі тройчы, паколькі два разы пад ім рвалася вяроўка. Да смерці была прысуджаная Гэся Хельфман, яна была на чацвёртым месяцы цяжарнасці і непасрэдна не ўдзельнічала ў замаху. Гэся памерла ад запалення страўніка.

Галаву Ігната Грынявіцкага змясцілі ў слоік са спіртам і выставілі ў холе пецярбургскай камендатуры паліцыі. Перад ім павінны былі праходзіць усе арыштаваныя, якіх накіроўвалі на допыт.

P.S. 19 лютага 1885 года скончыла жыццё нявеста Грынявіцкага Соф'я Мюлер, якая атруцілася дустам.

Сяргей КАЙКО

# Пакуль не прыйдуць перамены

## Ад футбола адварочваюцца фанаты

**Як казалася ў адной старой камедыі, у тваёй хаце будзе гучаць музыка, але ты яе не пачуеш. У аўторак у Беларусі распачаўся чарговы футбольны сезон. Старт яму далі салігорскі «Шахцёр» і барысаўскі БАТЭ, якія сустрэліся ў гульні за Суперкубак.**

Ну, увогуле музыка. Дый вясна прыйшла адразу з цяплом і сонцам, кроў нібыта зайграла. Аднак моцнага эмацыйнага ўздыму — таго характэрнага сакавіцкага ўзбуджэння, якое вядома любому заўзятару, — пакуль няма. Праз усё тую ж грамадска-палітычную сітуацыю ў краіне. Праз рэпрэсіі, затрыманні, нечалавечыя прысуды. Праз сум, які заеўся з табой.

Гэтыя адчуванні варта было б прыхаваць і трымаць пры сабе, калі б справа была толькі ў сітуацыйных рэфлексіях аднаго арганізма, змучанага авітамінозам. Аднак тыя ж настрої назіраюцца ў значнай часткі спартыўнага соцыуму. А найбольш яскрава і выразна напрадвесні іх акрэсліла самая, бадай, актыўная частка супольнасці — фанаты футбольных клубаў.

Яны наўпрост абвясцілі, што не будуць падтрымліваць свае каманды. Да таго часу, пакуль у краіне не наступяць доўгачаканыя перамены.

### Хто такія футбольныя фанаты?

Напачатку крыху лірыкі і лікбезу, каб недасведчаныя чытачы зразумелі, што ж гэта за з'ява такая — фанацкі рух у футболе. Адразу скажам: гэта зусім не тое, што фанаты Брытні Спірс і нават «Rammstein». Тыя раз ці два на год выстойваюць чэргі на канцэрты, каб уволю паслэміцца ды сарваць голас на падпеўках. А ў астатні час — жывуць звычайным жыццём, спадарожна адсочваючы новыя сінглы і студыйныя альбомы.

Гэта не тое, што фанаты здаровага ладу жыцця альбо аўтамабіляў BMW, бо тут у падмурку — скіраванасць на сябе, перфекцыянізм разам з геданізмам. Лёгка фанацець ад таго, што прыносіць табе задавальненне, як гук матора на 400 конскіх сіл ці «кубікі» на жываце.

Футбольнае фанаценне — гэта зусім іншае. Побач з асаладай і радасцямі тут шпацыруюць ахвярнасць, пакуты і скруха, да якіх ты заўсёды мусіш быць гатовым. Спытайцеся ў ультрас «Нотынгем Форэст», які шмат гадоў валэндаецца па завуголлях англійскага футбола пасля залатога веку на мяжы 70-х і 80-х. Ці ў сваякоў тых 96 фанатаў «Ліверпуля», якія загінулі ў цісканіне падчас знакамітай трагедыі на стадыёне «Хілсбара».

І яшчэ ў гэтым ёсць, вядома, наканаванасць, калі не ты выбіраеш любімую каманду — яна выбірае цябе. «Твой сын-немаўля — таксама заўзятар "Арсенала"?» — апісваецца жартаўлівая карцінка ў адным з апавяданняў Віктара Шэндэровіча. «Так, але ён пра гэта пакуль не ведае».

«Можна змяніць рэлігію, машыну, жонку і ўсё астатняе. Нельга змяніць любімы футбольны клуб», — казаў Эрык Кантана, французскі нападаючы і легенда «Манчэстэр Юнайтэд». «Для некалькіх пакаленняў мужчын працоўнага саслоўя футбол быў сэнсам існавання і містычным вопытам», — пісаў пра сваё юнацкае захапленне «Вест Хэмам» брытанскі пісьменнік Тоні Парсанс.

Так, усё гэта — старая добрая Англія. Раўняць яе футбол з нашым — гэта як трымаць на адной паліцы дыскі Элтана Джона і Аляксандра Саладухі. Англічане свой заўзятарскі імпэт перадаюць у спадчыну — часта з абанементам на наведванне дамашніх матчаў улюбёнай каманды. Футбольная асацыяцыя ў Злучаным Каралеўстве з'явілася ажно ў 1863 годзе — калі Кастусь Каліноўскі ўздымаў касінераў на вызваленчае паўстанне.

Заходняя Еўропа — дый Расія з Украінай таксама — у сэнсе развіцця фанацкіх згуртаванняў далёка сышлі ад Беларусі. За мяжой гэтая субкультура даўно набыла размах і сапраўдны росквіт. Яскравы прыклад таго «цнатлівыя» беларускія заўзятары маглі назіраць летам 2018-га, калі ў Мінск на еўракубкавы матч завітаў піцерскі «Зеніт». А з тым— і добры дзясятак тысяч «сіне-бела-блакітных» ультрас.

На відэаплатформах у сеціве і сёння лёгка знаходзяцца кадры лютых перформансаў, якія госці з горада на Няве нарабілі на сонечных мінскіх вуліцах. Ад магутнага касцюмаванага — і, вядома, несанкцыянаванага — шэсця па праезнай частцы, супраць якога нічога не змаглі парабіць ні АМАП, ні ГУБАЗіК. Да гарматных крычалак, песень і выбухаў разнастайнай піратэхнікі. Тое ж самае потым мела месца і непасрэдна на футболе, дзе фанаты «Зеніта» апанавалі ці не трацiну месцаў на трыбунах стадыёна «Дынама».

### Навошта футболу фанаты?

Пакажы мне сваіх фанаў, і я скажу, які ў цябе клуб, — словы, у якіх даўно ўжо няма аніякага перабольшвання. Бо стракаты, шматгалосы «супарт» — гэта такая ж айдэнтыка прафесійнай каманды, як і яе гісторыя, дасягненні, лепшыя гульцы і трэнеры.

Калі ў 2012-м у Гомель заехаў па той жа еўракубкавай патрэбе «Ліверпуль», мясцовыя заўзятары крочылі на футбол з дзвюма раўназначнымі мэтамі. Па-першае, канешне, паглядзець на гульню кавалера ордэна Брытанскай імперыі Сцівена Джэрарда і яго зорных аднаклубнікаў. Па-другое — пачуць, як панаехалая ліверпульская тарсіда пранізліва спявае легендарны клубны гімн «You'll Never Walk Alone» («Ты ніколі не будзеш адзін»).




Фанаты ўпрыгожваюць футбол і надаюць яму прыкметы велічы і свята. Але гэта не галоўная іх місія ў самай папулярнай сусветнай гульні. Галоўнае — падтрымка сваёй каманды, якая дапамагае дабівацца поспеху. Гэта адчуванне любога гульца, што ён выходзіць на поле не толькі дзеля таго, каб адпрацоўваць кантракт і рэалізоўваць ідэі трэнера. Бо ёсць яшчэ гэтыя людзі навокал, для якіх сённяшні лік на табло — нешта большае, чым вынік чарговага матча чэмпіянату.

Зразумела, фанатаў ні ў якім выпадку нельга ідэалізаваць. Гэта не коцікі, якія «сілкуюцца вясёлкай і какаюць матылькамі». Збольшага, гэта — маладыя мужчыны з павышаным утрыманнем адрэналіну ў крыві. Гэта людзі, якія прагнуць перамогі не толькі на полі, але і над такімі ж фанатамі — толькі з супрацьлеглага боку. Ці чулі вы хоць раз, каб заўзятыя адэпты AC/DC пабіліся з прыхільнікамі Boney M. дзесьці на ўскрайку горада з выкарыстаннем халоднай зброі? Вядома, не. Па-за спортам з'явы, плыні і стылі суіснуюць без гвалту і членашкодніцтва. У спорце ж — і ў футболе асабліва — варожае стаўленне да іншасці застаецца ў трэндзе, час ад часу спараджаючы эксцэсы і нават трагедыі.

Зрэшты, і згушчаць фарбы таксама не варта. Паліцыя і спецслужбы розных краін Еўропы, дзейнічаючы ў цесным супрацоўніцтве, паспяхова ліквідуюць фанацкі экстрэмізм як з'яву. Тут ужо «няма таго, што раньш было» — у 1980-я і 1990-я гады, пра якія здымаюць паўкрымінальныя мастацкія экшны накшталт «Фабрыкі футбола» альбо «Ультра». Тут усё больш цывілізаванасці, хаця пільнасці губляць дагэтуль не рэкамендуецца. Бо калі сустрэнуцца на вузкім скрыжаванні ультрас сербскіх «Црвены Звезды» і «Партызана», шатландскіх «Сэлціка» і «Рэйнджэрс», італьянскіх «Мілана» і «Інтэра» ці іспанскіх «Рэала» і «Барселоны» — кровапусканне, на жаль, амаль гарантаванае.

### Якія фанаты ў Беларусі?

Фанацкі рух у яго сучасным разуменні паўстаў у Беларусі фактычна аднначасова з узнікненнем суверэннага футбола. Старажылы з гэтым не пагодзяцца: маўляў, мы і пры Саюзе ганялі з мінскім «Дынама» — прабівалі выезды ў Маскву, Кіеў, а то нават і ў Тбілісі з Ерэванам. Так, пэўны варушняк існаваў і тады, аднак усё гэта выглядала — прабачце за чарговую музычную алегорыю — глянцавата і бяскрыўдна, як Валерый Лявонцьеў у параўнанні з Джымам Морысанам.

Савецкім фанатам бракавала галоўнай рысы — бунтарскага духу. Ён з'явіўся толькі на пачатку 1990-х гадоў, калі рушылі ў будучыню незалежніцкія клубы. Вакол якіх неўзабаве пачалі спакваля гуртавацца першыя ультрас — у куртках-касухах ды з шалікамі правільных колераў.

Далей — тыповая эвалюцыя: пашырэнне шэрагаў, цэнтрабежныя сілы, варажнеча з супернікамі. Бойкі — куды ж без іх. Часам — радыкальныя ідэалагічныя нарасты. Так, фаны мінскага «Дынама» нейкі час трымаліся правай палітычнай арыентацыі, сектар МТЗ-РІПА пазіцыянаваў сябе носьбітам левых ідэй… Блазнота, праз якую патрэбна было прайсці — і якая з цягам часу калі не сышла ў нябыт, то перастала быць мэйнстрымам.

Засталося галоўнае — сёння фанацкая суполка маецца ў кожнага статуснага клуба, і гэта менавіта той актывізм, які мае ўплыў і да якога прыслухоўваюцца і гульцы, і трэнеры, і функцыянеры. І што самае важнае — які падтрымлівае каманду і дапамагае ёй перамагаць. Каб не «жоўта-сіняя» тарсіда, наўрад ці БАТЭ сабраў бы столькі тытулаў і здолеў аднойчы адцягаць за чуб нямецкую «Баварыю» і італьянскую «Рому». Каб не магутны «бела-сіні» сектар, наўрад ці брэсцкае «Дынама» ўпершыню б стала чэмпіёнам краіны ў 2019-м. Каб не наогул гэта яркая з'ява — не было б на нашых футбольных матчах адметнай атмасферы, арыгінальных перформансаў і элементаў шоу. І цякла б гульня ў маркотным ціхмяным асяроддзі — хіба што пад лузганне семак «заўзятараў са стажам», так званых «кузьмічоў».

Аднак вось жа якія змрочныя часы надыходзяць. Фанацкі рух у беларускім футболе — на мяжы знікнення. Пра спыненне падтрымкі сваіх клубаў адмовіліся ўжо амаль дзесяць суполак ультрас вышэйшай лігі. Байкот абвясцілі (ці працягнулі з мінулага сезону) актыўныя прыхільнікі БАТЭ, «Шахцёра», брэсцкага «Дынама», жодзінскага «Тарпеда», «Віцебска», «Нёмана», «Мінска», «Смаргоні», «Слуцка»… Фаны «Іслачы» абралі іншую форму — наведваць гульні будуць, але збіраюцца скандзіраваць «Freedom Belarus» — лозунгі, які не патрабуе перакладу.

Дэмарш падхапілі каманды ніжэйшых ліг — мінскае «Тарпеда» і «Маладзечна», магілёўскі «Днепр» і мікашэвіцкі «Граніт». Нагадаем, што менавіта за маладзечанцаў заўзеў Мікіта Крыўцоў — футбольны фанат з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй, які ўдзельнічаў у жнівеньскіх пратэстах, а потым загінуў пры загадкавых абставінах.

Працэс сыходу фанатаў працягваецца — эпічны заклік «Далучайся!» працуе тут паводле эпічных канонаў беларускай салідарнасці. Чэмпіянат краіны распачнецца праз тыдзень — і не здзіўляйцеся, калі на той час на маршы не застанецца ніводнага фанацкага сектара.

Матывы ультрас відавочныя: пакуль у краіне пануюць рэпрэсіі, гвалт і іншы трэш, цешыцца футболам — гэта блюзнерства і вычварэнства. Вось надыдуць перамены — тады і весяліцца будзем, і свята зладзім, і ўспомнім усё.

Ну а пакуль на небе хмары, а ў душы туга, то і на трыбунах будзе рэжым цішыні. Бо футбол — гэта не толькі гульня, але і працяг нашага жыцця.

## ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ ЗА КРАТАМІ

**Мы будзем імкнуцца максімальна збіраць інфармацыю пра тых, хто сустрэне свой чарговы дзень народзінаў за кратамі. Магчыма, хтосьці з нашых чытачоў захоча павіншаваць палітвязня паштоўкай ці тэлеграмай або адправіць яму грашовы перавод да свята. Магчыма, хтосьці захоча даслаць у рэдакцыю віншаванне, каб мы яго надрукавалі.**

Працягваем публікаваць імёны тых, хто адзначыць свой дзень народзінаў у сакавіку. Шчыра віншуем усіх. Жадаем моцы, здароўя і вольнай Беларусі!

### 14 сакавіка

Цімур Набіевіч Рызапур быў затрыманы 30 верасня, абвінавачваецца ва ўдзеле ў масавых



беспарадках увечары 10 жніўня ў Брэсце па ч. 2 арт. 293 КК.

Ён таксіст, і ўвечары 10 жніўня вяртаўся з працы дадому, але яго падстрэлілі гумовымі кулямі пяць разоў. Следчы тлумачыць выбар такой меры стрымання — утрыманне пад вартай — тым, што ў Цімура Рызапура няма беларускага грамадзянства, нягледзячы на тое, што ў яго ёсць від на жыхарства і ён жыве ў Беларусі ўжо каля 23 гадоў.

За кратамі Цімур сустрэне свой 38-ы дзень народзінаў.

Адрас для лістоў: СІЗА-7. 224030, г. Брэст, вул. Савецкіх памежнікаў, 37.

### 15 сакавіка

Аляксандр Фёдаравіч Губейка — 60-гадовы мінчук, 37 гадоў ён працуе на вытворчасці. Акрамя таго, ён актывіст палітычнай



партыі БСДГ (Грамада) і незалежнага прафсаюзу РЭП.

Губейку абвінавацілі па артыкуле аб гвалце ў дачыненні да супрацоўнікаў міліцыі. Паводле абвінавачання, на акцыі пратэсту ў падтрымку палітвязняў 4 кастрычніка пры сваім затрыманні Аляксандр Губейка аказваў супраціў і два разы ўдарыў камандзіра аддзялення АМАП ГУУС Мінгарвыканкама Андрэя Кавалёва (прозвішча і імя былі зменены), спрабаваў вырвацца, хапаўся за абмундзіраванне. Віну Губейка не прызнаў.

Нягледзячы на разыходжанні ў паказаннях пацярпелага міліцыянта, 21 студзеня Аляксандра Губейку асудзілі на 2 гады пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму. Таксама Губейка абавязаны выплаціць 2500 рублёў кампенсацыі пацярпеламу Кавалёву.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

### 18 сакавіка

Глеб Дзмітрыевіч Фіцнер — студэнт чацвёртага курса Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта.



Быў затрыманы 12 лістапада ў межах крымінальнай справы па ч. 1 арт. 342 КК РБ (Арганізацыя альбо ўдзел у групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак).

Глебу прад'яўлена абвінавачанне па гэтым артыкуле. Спачатку яго змясцілі пад варту ў СІЗА КДБ, затым перавялі ў СІЗА-1. За кратамі Глеб адзначыць свой 22-ы дзень народзінаў.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

Яраслаў Збароўскі быў затрыманы 25 верасня па справе аб масавых беспарадках. Яму было прад'яўленае абвінавачанне па ч. 2 арт. 293 КК — «Удзел у масавых беспарадках».



Адрас для лістоў: Следчая турма №8. 222163, г. Жодзіна, вул. Савецкая, 22А.

### 20 сакавіка

Сяргей Фёдаравіч Ляжэнка — фігурант «Пінскай справы».



Першы раз быў затрыманы на працы на «Пінскдрэве» 28 жніўня, а пасля трох сутак — вызвалены ў статусе падазраванага па ч. 2 арт. 293 Крымінальнага кодэкса — «Удзел у масавых беспарадках».

30 жніўня мерай стрымання для Сяргея Ляжэнкі быў абраны хатні арышт, а 23 верасня мужчыну зноў затрымалі і пакінулі пад вартай — нібыта ён мог з'ехаць за мяжу.

За кратамі Сяргею споўніцца 38 гадоў.

Адрас для лістоў: СІЗА-6. 225413, г. Баранавічы, вул. Брэсцкая, 258 В.

Імёны іншых вязняў, якія таксама адзначаць свой дзень народзінаў у сакавіку, мы апублікуем у наступным нумары.



# Нам прапануюць пабудаваць узамен старажытнай камяніцы дарагі муляж

**Гісторык Андрэй Чарнякевіч звярнуўся з адкрытым лістом да старшыні Гродзенскага аблвыканкама, у якім гаворыць пра пагрозу знішчэння ўнікальнага для Беларусі гістарычнага помніка, калі праект рэканструкцыі не будзе перагледжаны.**

«Палітычныя падзеі, што адбываюцца ў нашай краіне апошнім часам, прымусілі забыцца на іншыя праблемы, аднак гэта не азначае, быццам яны перасталі існаваць. Больш за тое — менавіта цяпер прымаюцца рашэнні, адмяніць якія пазней ужо не атрымаецца. Гаворка ідзе пра праект другой чаргі рэканструкцыі Старога замка ў Гродне, які, фактычна, ставіць пад пагрозу знішчэння ўнікальны для Беларусі гістарычны помнік.

Распрацаваны яшчэ ў пачатку 1990-х гадоў праект адбудовы каралеўскага замка з'яўляецца састарэлым, навукова неабгрунтаваным, распрацаваным без уліку ўжо назапашанага досведу. На жаль, мы не ведаем, як у часы Стэфана Баторыя дакладна выглядаў замак, калі ён толькі паўстаў. Мы не можам пераканаўча сцвярджаць, хто з архітэктараў яго будаваў, пра што было ўжо шмат сказана ды напісана спецыялістамі яшчэ напярэдадні першай чаргі рэканструкцыі. Таму тое, што атрымалася ў выніку работ на першай чарзе рэканструкцыі, нельга назваць інакш, як казачным замкам, створаным фантазіяй сучасных дойлідаў. Тым не менш, сапраўдныя каралеўскія муры, прынамсі, збольшага гэты этап рэканструкцыі перажылі.

Цяпер жа сітуацыя карэнным чынам змянілася. Той палац, які мы сёння бачым, — гэта спалучэнне розных эпох, архітэктурных стыляў, розная ўнутраная планіроўка, якія разам ствараюць жывы арганізм, тады як памылковая канцэпцыя, што патрабуе пабудаваць менавіта "палац Баторыя" і ніякі іншы, пагражае знішчэнню гэтага каштоўнага помніка. Нам прапануюць пабудаваць узамен старажытнай камяніцы, дзе кожнае скляпенне захоўвае памяць пра мінулыя стагоддзі, дарагі муляж, пазбаўлены ўсялякага духу гісторыі; замяніць аўтэнтычны, сапраўдны скарб прыкрай падробкай! Гэта як замена залатога самародка на шкляныя пацеркі.

Але адна справа, калі гістарычная бутафорыя паўстае на пустым месцы, і зусім іншая, калі дзеля яе будуць разбіраць — забіваць гісторыю! "Не зрабі горш" — вось пра што мы павінны памятаць сёння, працягваючы рэканструкцыю, пакуль яшчэ магчыма паспець перагледзець сумнеўныя архітэктурныя рашэнні ды выправіць відавочныя памылкі. Як нельга "для сіметрыі" прышыць чалавеку яшчэ адну галаву, так нельга гістарычнаму будынку дадаць яшчэ адзін паверх. Кожная знятая цагліна, кожны знішчаны метр культурнага слою стане напамінам пра сучасных Герастратаў...

Але нават гэта яшчэ не ўсё. Пасля заканчэння другой чаргі будаўніцтва, тэарэтычна, нас чакае трэцяя чарга рэканструкцыі, пра якую сёння ўслых нават не ўзгадваюць. А ўсё дзеля таго, што, паводле папярэдніх планаў, для пабудовы замка "як у Баторыя" давядзецца... дасыпаць частку Замкавай гары — і гэта замест таго, каб ужо сёння ўзяць пад ахову тыя гістарычныя муры, якія разбураюцца наўпрост на нашых вачах!

Заклікаю неадкладна перагледзець як сам праект другой чаргі, так і ўсю канцэпцыю рэканструкцыі Старога замка. На нашу думку, трэба адысці ад ідэі аднаўлення Старога замка "эпохі Стафана Баторыя", бо ў выніку яе рэалізацыі мы рызыкуем атрымаць суцэльны муляж. Я прапаную паказаць усю ўнікальнасць Замкавай гары, дзе жыццё не перарывалася вось ужо амаль тысячу гадоў. Гэта значыць — аднавіць будынак замка, максімальна захоўваючы ўсе напластаванні і архітэктурныя элементы 17–18 стагоддзяў, а што датычыць трэцяй чаргі, то наогул варта максімальна засяродзіцца не на будаўніцтве, а на кансервацыі аб'ектаў 12–17 стагоддзяў: Ніжняй і Верхняй царкваў, Княжацкага церама і іншых, на стварэнні своеасаблівага падземнага Гродна, якому не будзе роўных не толькі ў Беларусі, але і ва ўсім рэгіёне. Мы маем шанец збудаваць не прывідны замак, але атрымаць унікальны археалагічна-архітэктурны ансамбль аб'ектаў 12–17 стагоддзяў (трэцяя чарга), рэканструкцыі на эпоху 16 стагоддзя (першая чарга) і замка 16–19 стагоддзяў (другая чарга).

Заклікаю абмеркаваць гэтае пытанне як мага шырэй з удзелам навукоўцаў і грамадскасці».

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №375

Падпісана да друку 04.03.2021. 8.00. Наклад 4500 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.